© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

# Невядомыя кнігі Скарыны

## набытыя на аўкцыёне ў Лёндане



*5 сьнежня а другой гадзіне дня ў галоўным памяшканьні аўкцыёну «Christie's» дырэктар бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане айцец Аляксандар Надсан зрабіў незвычайную пакупку — сабраныя ў адным пераплёце пяць кніг Францішка Скарыны праскага выданьня. Унікальнасьць знаходкі ў тым, што яна дагэтуль знаходзілася ў прыватнай калекцыі і была невядомая навукоўцам. Непасрэднае дачыненьне да гэтай падзеі меў Сяргей Шупа.*

С.Шупа: Напачатку кастрычніка я натыкнуўся ў Інтэрнэце на абсалютна неверагодную навіну. 26 лістапада 1996 году на аўкцыёне «Christie's» у Лёндане выстаўляўся на продаж гэты Скарынаў зборнік. Што я зрабіў адразу, як толькі пабачыў гэтую інфармацыю? Я затэлефанаваў у «Christie's». Яны даслалі мне старонку са свайго службовага каталёгу, дзе было напісана, што кніга ацэньваецца ад чатырох да шасьці тысячаў фунтаў і што яна не прададзеная. Ад такой навіны ў мяне проста вырасьлі крылы. Найбольш дзіўным было тое, што дагэтуль кніжка заставалася ня купленай. Бо існавалі і ёсьць інстытуцыі, якім паводле службовых абавязкаў трэба было штосьці такое высочваць і скупляць. Хоць бы тая самая Брытанская бібліятэка і ейны славянскі аддзел, які заўсёды ўважліва сочыць за гэткімі падзеямі. Але сталася так, што яны гэтую кнігу прагледзелі і на тым менавіта аўкцыёне не прысутнічалі.

Сумневы ў аўтэнтычнасьці кнігі разьвейваліся даволі падрабязным апісаньнем у каталёгу. Наўрад ці нехта стаў бы падрабляць нешта нагэтулькі маргінальнае для эўрапейскіх аматараў кнігі і, тым больш, выстаўляць за такую цану, якая, па прызнаньнях шмат каго са спэцыялістаў, да якіх я пасьля зьвярнуўся, была не такая ўжо й вялікая.

У склад зборніка паводле каталёгу ўваходзілі першая, другая, трэцяя, чацьвертая і шостая кнігі, якія выйшлі пасьля першай, пасьля Псалтыра. Гэта кнігі Іова, Прытчаў Саламонавых, Ісуса Сірахава, Эклезіяста і Прамудрасьці Божай. Пабачыўшы гэты склад, я адразу зьвязаўся з дасьведчаным спэцыялістам доктарам Неміроўскім з Масквы і папрасіў яго ідэнтыфікаваць такі зборнік. Ён паведаміў, што гэты зборнік дагэтуль навуцы быў няведамы, не апісаны і адкуль ён узяўся — невядома.

Цяпер першае, што трэба было зрабіць, гэта, не задумваючыся аб наступствах, падаць заяўку на аўкцыён «Christie's», маўляў, я гатовы набыць гэтую кнігу. Я гэта зрабіў, думаючы, што пасьля неяк разьбярэмся.

Наступны крок. Прыпамінаючы нядаўнюю праскую Скарынаўскую канфэрэнцыю, дзе загадчыца аддзелу старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Тацяна Рошчына прасіла дапамагчы ў адшуканьні і спрыяньні набыцьцю новых Скарынавых асобнікаў, я адразу паведаміў ёй. Тым часам прыйшоў факс з аўкцыёну, што яны скантакталіся з прадаўцом і ён згадзіўся на прапанаваную суму, што апошні раз стукнуў аўкцыённы малаток і

Працяг на старонцы 3.

НАША НІВА

№ 35 (96) 15 сьнежня 1997 г.

НАРОДНАЯ КНІГА

# СЬЦЯНА

Пасьля неаднаразовых прапановаў нашых чытачоў і з ласкавае згоды народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава выдавецтва «Наша Ніва» ажыцьцяўляе выданьне новае кнігі прозы В.Быкава «Сьцяна». Як вядома, гэтае выданьне рыхтавалася ў дзяржаўным выдавецтве, але сёньняшні палітычны рэжым спыніў выхад кнігі. Мы далёкія ад думкі, што беларускае слова можа ў прынцыпе існаваць толькі за дзяржаўныя датацыі, і мяркуем, што паміж творамі народнага пісьменьніка, як, зрэшты, і іншых таленавітых літаратараў, з аднаго боку, і чытачом — з другога, ня мусяць паўставаць непераадольныя бар'еры чынавенскае прыхамаці. Кнігі лепшых беларускіх літаратараў будуць выходзіць у такім аб'ёме і датуль, колькі і дакуль у гэтых кніг будзе чытачоў. Гэтак нарадзілася ідэя стварыць прэцэдэнт Народнае Кнігі. Мы ня ставім на мэце знайсьці спонсараў або зрабіць прыгожы жэст дабрачыннасьці. Мы імкнемся, насуперак цынічнаму да нашае мовы й культуры рэжыму, сьцьвердзіць, што беларускія кнігі мусяць выходзіць за грошы і дзеля патрэбаў беларускага грамадзтва. Разам з тым, мы спадзяемся на кансалідацыйны эфэкт Народнае Кнігі, якая мусіць умацаваць нашае грамадзтва і дадаць яму сілы духу.

Кніга «Сьцяна» складаецца з празаічных твораў Васіля Быкава апошніх гадоў.

Беларуская гісторыя XX стагодзьдзя стварыла нямала сытуацыяў, калі характары розных людзей па-рознаму выяўляліся на мяжы жыцьця і сьмерці. Слуцкае антыбальшавіцкае паўстаньне, Курапаты, другая сусьветная вайна, «хрушчоўская» адліга, перасьлед з боку КГБ у застойныя часы. Адпаведна рознымі былі і паводзіны міжвольных удзельнікаў гэтай гісторыі, ад якіх, па вялікім рахунку, не залежала нічога. Яны, фатальна абложаныя таталітарнай сыстэмай, маглі толькі захаваць або не захаваць сваю чалавечую годнасьць. Але ніякім чынам яны не маглі паўплываць на свой прадвызначаны статус — ахвяраў чырвонага або брунатнага малоха, які працяў кожнага зь іх наскрозь — іхны розум і іхную кроў.



Васіль Быкаў у новай кнізе прозы паказвае, наколькі немагчыма, але наколькі важна на самых фатальных этапах гісторыі захоўваць чалавечнасьць, прыстойнасьць, годнасьць. Псыхалягічныя сытуацыі ў крытычных абставінах становяцца напружанымі сюжэтамі, а дакладныя характарыстыкі самых розных чалавечых тыпаў змушаюць чытача ўвесь час адчуваць сваю прысутнасьць сярод быкаўскіх пэрсанажаў і рабіць уласны маральны выбар.

Кніга Васіля Быкава «Сьцяна» выйдзе ў сьвет сёлета. Выдавецтва «Наша Ніва» зьбірае папярэднія замовы на кнігу.

Нагадаем, што той, хто замаўляе кнігі «НН» да іх выхаду ў сьвет, аплочвае толькі сабекошт і кошт перасылкі, тады як гатовая кніга з гандлёвымі нацэнкамі будзе каштаваць значна даражэй.

*Пра тое, як замовіць кнігу Васіля Быкава, чытайце на восьмай старонцы газэты.*

Васіль Быкаў

# ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК

Іх везьлі ноччу па цёмных гарадзкіх вуліцах кудысь прэч ад турмы, але ў які бок гораду — Аўтух зразумець ня мог. У крытай машыне не было вокнаў, не сьвяцілася нідзе нават маленькай шчыліны, і ні ўнутры, ні знадворку нічога не было відаць. Аўтух сьпярша думаў, што трапіў у страхавіты «чорны` воран», пра якога начуўся ў турме і нават раней — на вёсцы. Але, мабыць, то быў ня «чорны воран», бо, як ён згледзеў уначы, калі іх вывелі на турэмны падворак, была гэта машына хоць і вялікая, але ня чорная. І нешта кароткае было напісана на яе баку, ды ён не разабраў, што — не далі. Пачалі штурхаць, каб хутчэй залязалі ў яе цёмнае нутро, а ў яго якраз разьвязалася аборына на лапці, і ён, сагнуўшыся, узяўся яе завязваць. Ды тут жа атрымаў злога высьпятка ў зад — гэта той канвой ці як яго — малады танклявы вайсковец з вусікамі, які сёньня распараджаўся імі. Аўтух таропка ўлез у машыну, дзе ўжо сядзела чалавек шэсьць ягоных спадарожнікаў, і стуліўся ля самых дзьвярэй, якія тут жа з бразгатам зачыніліся. Машына папаўзла-паехала з падворку, праз браму, затым па вуліцах, паварочваючы то ў адзін бок, то ў другі. Леваруч ад Аўтуха сядзеў мужчына ў скуранцы, якога напачатку, як арыштавалі, Аўтух бачыў у кабінэце сьледчага. Але цяпер Аўтух ня мог зразумець, чаму той тут? Ці таксама арыштаваны, ці вязе іх у якую іншую турму? А можа — на волю? Бо завошта караць Аўтуха, які зь яго польскі шпіён? У Польшчы ня быў ні разу, мала што жыў пры мяжы. На хутары. І аднаасобна...

Во ў тым, што аднаасобна, мабыць, найбольшы ягоны грэх. Праз тую аднаасобнасьць ён за год натрываўся столькі, што іншаму хапіла б на ўсё жыцьцё.

— Гэ, таварыш... А, таварыш, — далікатна папіхнуў ён лакцём суседа ў скуранцы. — Ня ведаеце, куды гэта нас?

— На кудыкіну гару, — не адразу і зласьліва адказаў сусед, нядаўні сьледчы ўправы НКВД Сурвіла.

Гэты Сурвіла ня тое, што Аўтух, — ён і ў цемры, з заплюшчанымі вачыма мог вызначыць іхны маршрут. Даўно і добра ён ведаў гэтую дарогу — ад гарадзкога цэнтру да ўскраіны і далей, паўз прыгарадную вёску да недалёкага ляска, дзе было наркамацкае стрэльбішча. Некалі сам туды вазіў такіх жа, асабліва як служыў у камэндатуры. Пасьля ўжо, як перавялі ў сьледчы аддзел, разы два выяжджаў на практыкаваньне ў стральбе з асабістае зброі — пісталета ТТ. Раней усе чэкісты ўправы былі ўзброеныя рэвальвэрамі сыстэмы «наган», а летась у першую чаргу сьледчым выдалі новенькія ТТ — спрытныя такія, пляскатыя пісталеты з чорнымі шчочкамі на рукаятках. Зь іх і стралялі. Ён тады здаў практыкаваньне на «добра». А цяпер тыя практыкаваньні будуць здаваць іншыя. На практыцы. На іхных патыліцах...

Па тым, як машыну стала кідаць з боку на бок, Сурвіла зразумеў, што яны выяжджалі з гораду. Недзе збоч у цемры туліцца невялікая прыгарадная вёсачка, а іх чакае паваротка ўлева, ад якой... Ад якой да мэты, да апошняй мяжы, лічы, што-нішто, засталося якіх паўгадзіны часу, і ўсё. Усё назаўжды скончыцца.

Тое, што хутка ўсё скончыцца, яго, аднак, ня дужа і турбавала. Да таго ён гатовы быў месяц таму, нават да суда, ведаў, яго не памілуюць. Стрэльнуць. Бо тое, што яму прад'явілі для абвінавачаньня, увогуле было папраўдзе: дапушчаў і перавышэньне, і незаконныя мэтады — і біў, і ламаў косьці — «даваў дразда». Але ж хіба ён адзін? У іхнай управе так працавалі ўсе, — стараліся, ня спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна

Працяг на старонцы 4.

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЧУЖЫЯ НЕПАТРЭБНЫЯ НІКОМУ

Калі глядзіш апошнім часам навіны ў тэлебачаньні робіцца ніякавата ад таго, як сыходзіць гэты год — катастрофы, выбухі, аварыі на шахтах, у небе, на дарогах. На тэлеэкранах агонь, клубы дыму, разбураныя будынкі...

Недзе гэтыя катастрофы сягаюць межаў нацыянальных бедзтваў і тады прыспускаюцца нацыянальныя сьцягі, людзі становяцца сур'ёзнымі, закасваюцца рукавы і пачынаецца *аднаўленьне*. Людзі, зараджаныя станоўчай ідэяй, здольныя на немагчымае. Галоўнае хацець і верыць.

Тое, што мы бачым у тэлевізіі адбываецца, дзякуй Богу, па-за нашымі межамі. У нас ціха. Нашая нацыянальная катастрофа адбылася ўвесну 1995 году. На даху былога ЦК.

Цяжка прыгадаць краіну, якая б перажыла падобны шок. Нацыянальны сьцяг не прыспусьцілі. Яго дралі... На кавалкі... Дралі не акупанты, не захопнікі, не чужыя... Яго дралі свае... Але *чужыя*...

З таго самага часу яны перасталі быць для нас *сваімі*. Рукі, якія дралі *наш сьцяг*, верагодна, прагнулі стаць сваімі для кагосьці іншага, але ня сталі. Яны сталі *чужымі*... Для ўсіх. Іншага не магло быць. Такі лёс здрады.

Тады, у траўні 1995 мы сягнулі дна. Дна адчаю, разгубленасьці, абыякавасьці. Але — вугал падзеньня роўны вуглу адлюстраваньня. Гэта закон. З тае хвіліны нашае грамадзтва трапіла ў сфэру дзейнасьці гэтага закону.

Рукам, якія дралі *наш сьцяг*, здавалася, што яны ў стане зьнішчыць сымбаль.

Колькі фарбы пераводзіцца на тое, каб замазаць *наш сымбаль* на нашых платах, а колькі яшчэ перавядзецца. Ён праяўляецца. Ён будзе праяўляцца заўжды і паўсюль, пакуль зноў ня зойме сваё належнае месца.

Можна кідаць за краты дзяцей, якія фарбуюць беларускія сьцены ў беларускія колеры, можна прымушаць іншых дзяцей хадзіць пад ня нашымі сьцягамі, гэта нічога ня зьменіць. Рукапісы не гараць, ня рвуцца, не замазваюцца, ня кідаюцца за краты.

Гэта аксіёма, якая дзейнічае нават больш надзейна, чым закон.

Мы падымаемся цяжка. Так, як падалі. Падымаемся пакутліва, хістаючыся. Зьбіваючы зь сябе ўсё нявартае, штучнае, недасканалае. З нас зьлятае акаліна. Мы набываем форму.

Мы падымаемся. Гэта відаць зь няўдалага леташняга рэфэрэндуму. Гэта відаць з букету забаронных указаў, якія неўзабаве будуць прынятыя. Гэта відаць праз забарону «Свабоды». Гэта відаць зь няўдалага прарыву да суседзяў. *Чужыя* нікому не патрэбныя.

Мы падымаемся — гэта напісана на твары *сваіх беларускіх* палкоўнікаў з улётак у абарону *свабоды*.

Наступны год ня спыніць нашага пад'ёму, ён можа толькі яго прысьпешыць. Ніякія ўраганы, бедзтвы, мафіі, указы ня ў стане нам замінаць. Таму што мы аднаўляем *сваё*. Таму што гэта прырода. Таму што гэта не залежыць нават ад нас.

*Чужым* застаецца адно — пакаяньне, калі яны на гэта здольныя. Не дзеля таго, каб стаць для нас *сваімі*, гэта наўрад ці магчыма. Дзеля таго, каб не застацца *чужымі*. Для ўсіх. Бо *чужыя* не патрэбныя нікому, нават самім сабе.

**Алег Дашкевіч**

## ПОШТА

**ВІТАЮ ВАС, ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Хачу Вам сказаць слова падзякі за тое, што Вы ёсьць, што Вы робіце такую патрэбную і складаную справу. Першы раз я падпісаўся на Вас, раней купляў у шапіках. Зараз вырашыў падпісацца, таму што не хачу губляць Вас, бо Вы такія адзіныя і непаўторныя, і бяз Вас асабіста мне будзе вельмі цяжка. Да таго ж я зьбіраю ўсе нумары, пачынаючы зь ліпеня 1996 году. Хачу захаваць дзеля сваіх дзяцей, а можа і ўнукаў, гэтую газэту, гэты скарб.

Віншую вас з Калядамі, зычу найперш здароўя, потым мужнасьці й сьмеласьці Вам і Вашым сем'ям, усё астатняе прыкладзецца! Упэўнены, мы пераможам, рана ці позна! Яшчэ раз дзякую! Да спатканьня.

**Віталь Корнеў, Пухавіцкі раён**

**ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА.**

Зьвярнуцца да Вашае ўвагі мяне прымусіла пытаньне, якое даўным часам чмурыць голаў пэўнае колькасьці суайчыньнікаў, ласьне — аб найменьні «тутэйшае» краіны. Прапановы наконт гэтага час ад часу зьяўляюцца на старонках газэтаў ці кнігаў, альбо гучаць на радыёхвалях. Такім чынам, стала модным распавядаць аб сваіх тапанімічных прыхільнасьцях. Аднак пры гэтым, не зважаючы на цікавую акалічнасьць, якая засталася па-за межамі ўвагі хоць і ня ўсіх, але большасьці дасьледчыкаў. А справа ў тым, што ніводны з прапанаваных варыянтаў не ахоплівае ўсяе тэрыторыі краю.

Па-першае, гэта Крывія. Тапонім паходзіць ад назвы племяннога саюзу крывічоў, якія засялялі полацкія, пскоўскія ды смаленскія землі. В.Ластоўскі лічыў, што гэта адзіная сапраўдная саманазва беларусаў. Але варта прыгадаць, што акрамя полацкіх крывічоў, якія займалі асяродак і паўночны ўсход сучаснае Беларусі, былі яшчэ дрыгавічы й дулебы з поўдню, радзімічы з Усходу і балцкія плямёны на Захадзе. Таму найменьне «Крывія» нельга аднесьці да беларускага этнасу, які зьяўляецца агульным нашчадкам вышэйзгаданых плямёнаў.

Па-другое — Літва (ці, у адрозьненьне ад цяперашняе Літоўскае рэспублікі — Вялікая Літва). Гэты тэрмін прыйшоў да нас ад гэтак званае летапіснае Літвы, тэрыторыя якой знаходзіцца ў межах заходняе Беларусі. Напачатку заселеная старажытнымі літоўскімі плямёнамі, яна была спакваля асыміляваная прышлымі славянамі, якія, як гэта здаралася й будзе здарацца потым, запазычылі ў тубыльцаў іхную назву. У далейшым гэтая мясьціна і зрабілася асяродкам, вакол якога пачала будавацца літоўска-беларуская дзяржава.

Тым ня менш, гэта самы супярэчлівы тапонім. З аднаго боку, гэтак завуць сябе сучасныя нашчадкі жэмайтаў і аўкштайтаў. Зь іншага — гэтак звалася сярэднявечная дзяржава, мова, культура і народ якой, былі ў большасьці беларускага паходжаньня. Менавіта ў часы Вялікага Княства Літоўскага пачала складвацца й дасягнула найвышэйшага росквіту беларуская народнасьць. Жыхароў гэтага гаспадарства пачалі зваць ліцьвінамі. Але ў межах Вялікага Княства ліцьвінамі ці літоўцамі зваліся пераважна жыхары заходніх тэрыторыяў, у той час, як усходняя частка — беларусцамі ці беларусінамі. Пэўную ролю ў гэтым, магчыма адыграў канфэсійны падзел на заходніх, каталікоў і ўсходніх, праваслаўных. Гэты падзел існаваў нават напрыканцы XIX стагодзьдзя, аб чым паведамляе ў сваіх працах А.Кіркор, які разьмяжоўвае край на Літоўскае ды Беларускае Палесьсі.

Нарэшце, трэці тапонім — Беларусь. Што тычыцца гэтага найменьня, то яно ўпершыню згадваецца ў Дублінскім рукапісе XIII ст. Аўтар геаграфічнага трактату, які ўваходзіць у гэты рукапіс, быў каталіцкім прапаведнікам і доўгі час жыў сярод яцьвягаў і літоўцаў, а таксама прысутнічаў на каранацыі Міндоўга. Сярод пераліку апісаных земляў (Курляндыі, Жамойці, Літвы, Яцьвягаў ды Нальшанаў), ён паведамляе пра сумежную зь імі Белую Русь, якая, верагодней за ўсё, зьмяшчалася недзе ў землях ад Пскова да Турава. Але гэтая назва ня мела пэўнае этнічнае прыналежнасьці і ў розныя часы адносілася да розных тэрыторыяў. Ласьне Белай Русьсю называліся, кожная ў сваю часіну, Полаччына, Смаленшчына, Пскоўшчына (то бок землі крывічоў). Гэтак звалася Суздальская Русь Андрэя Багалюбскага і Масковія Івана III-га. Нават Украіна, пры гетмане Хмяльніцкім...

А ў дзяржаўным справаводзтве Вялікага Княства гэты тэрмін даволі доўга не ўжываўся і зьявіўся толькі ў XVII ст., пры Яне Сабескім, адносна да Мсьціслаўскіх і Магілёўскіх земляў. Канчаткова стала звацца «тутэйшай» краіна напачатку XX ст., у часы купалаўскага Адраджэньня.

Як бачым, ніводны з тэрмінаў ня можа ўжывацца паасобку ў дачыненьні да ўсяго краю і яго народа. «Назва нацыі — гэта сьцісла вобраз яе гісторыі,» — пісаў Я.Запруднік. Вядома, можна назваць дзяржаву Беларусьсю Літоўскай і тым самым вырашыць праблематычнае пытаньне гістарычнае спадчыннасьці, зьяднаць беларускія землі ў адзінае цэлае і канчаткова вызначыць, урэшце, заходнія зьнешнепалітычныя прыярытэты нацыі.

Але гэта, напэўна, ужо справа наступнага стагодзьдзя, бо зараз у нас ёсьць больш надзённыя пытаньні, якія патрабуюць неадкладных адказаў.

**Віктар Пастухоў, Ліда**

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Маю тры нагоды напісаць ліст. Па-першае, дасылаю свой подпіс пад «Хартыяй '97», па-другое, падпісны квіток, як просіце.

Па-трэцяе, што ж нам прапануе Мікола Самавіты з Глыбокага («НН», №32) замест аднаўленьня Літвы вакол Баранавічаў, як хоча Аляксандар Маргун («НН», №32), зарыем усё ў зямлю і будзем чакаць канца сьвету, а потым прыляцім назад!

Людцы мае добрыя, такі чорны гумар ужо рабіўся яваю. Рымляне аднойчы пахавалі свае хаты, статуі, фрэскі ў Пампеі пад Вэзувіем, які няшмат горшы за ўлады РБ, а потым гэтае дабро знайшлі археолягі. Ды нешта не вяртаюцца рымляне, а лацінская мова засталася толькі на этыкетках лекаў, як і беларуская — на паперы, а ня ў вуснах людзей.

Праўда, чаго толькі не бывае. Глядзіш — сядзе лятучая талерка на плошчы Незалежнасьці ў Менску і выйдуць зь яе пяцёра рымлянаў. І тут жа да іх міліцыянт: «Ці маеце дазвол на правядзеньне пікету?» Гой, ня любяць рымляне, калі іх правы парушаюць, і ў хуткім часе на месцы Дома ўраду зацьвілі валошкі й загулі пчолы. І вось прыяжджаюць у Менск бюракраты з усяе краіны, каб вернападданасьць прэзыдэнту выказаць. А яго няма, і ля плошчы Незалежнасьці валошкі цьвітуць. «Перад кім сьпіну гнуць будзем?» — спыталіся ў сябе бюракраты і з сумам пайшлі на паклон да Шарэцкага. А той ім: «Мы яшчэ ня скончылі пачатую намі працэдуру абвяўленьня імпічмэнту, таму супраць усенародна абранага прэзыдэнта пайсьці не магу». «Дык яго ж няма», — зьдзіўляюцца бюракраты, — каму імпічмэнт аб'яўляць будзеце?» «Прад'явіце шкілет, тады паверу, што больш няма», —не здаецца Шарэцкі. Што зробіш, пайшлі блукаць па Менску бюракраты, і набрылі на штаб-кватэру БНФ. Пабачылі Пазьняка й перад ім схіляюцца, чалом б'юць: «Разьлюбезны наш, ня дай памерці, будзь нашым прэзыдэнтам». А Зянон ім кажа: «Ідзіце да Ельцына ў Расею, ён вас і накорміць і абагрэе, а нам тут і бяз вас ёсьць што рабіць». Гэтак зьвяліся на Беларусі бюракраты і сталі людзі жыць-пажываць і дабро нажываць.

Тым часам, пакуль няма рымлянаў або канца сьвету, хай жа жыве Літва са сталіцай у Баранавічах. Але толькі не ў Глыбокім, гэта ж натуральная чарга: першыя Баранавічы, другі Парыж (Глыбокае), трэці Рым (Масква), ?, ?, палата №6, бо сакрэтныя гарады пад вышэйшымі нумарамі — гэта глупства, на якое здатныя толькі вышэйпамянёныя бюракраты.

Але больш за ўсё беларускаму руху патрэбныя не экзатычныя спробы ратаваньня, а больш-менш абгрунтаваная ідэалёгія. У камуністаў, прыкладам, ёсьць свая тэорыя Маркса, якая прадказвае ім перамогу. А за якія правіны ня маем падобнай тэорыі мы? Доказы і абгрунтаваньні — рэчы магутныя. Падобнае і Ермаловіч рабіў, каб вярнуць нам пачатак гісторы ВКЛ. На яго злуюцца, але запярэчыць ня могуць, час такі: сёньня можна адмаўляць існаваньне Бога, мы яго ня бачым, але навуку адмаўляць няможна: яе праявы мы бачым, чуем і нюхаем кожны дзень.

**Алесь — Палескі Чарадзей, Менск**

# Пошук стратэгіяў

Сьнежань у Менску атрымаўся багаты на розныя канфэрэнцыі й сэмінары ў трэцім сэктары. Шмат у чым такая актыўнасьць зьвязаная з канцом фінансавага году — многія замежныя фундатары й інстытуцыі, зацікаўленыя ў супрацоўніцтве зь незалежнымі беларускімі арганізацыямі, сьпяшаюцца выкарыстаць грошы. 5 сьнежня таксама было з чаго выбіраць. Эўрапейскія структуры й Хэльсынскі камітэт ладзілі канфэрэнцыю па рэгіёну ад Чорнага да Балтыйкага мора. Прадстаўніцтва там сапраўды было на высокім узроўні.

Але я выбраў больш камэрную імпрэзу - сэмінар «Беларусь, Польшча, Сярэдняя Эўропа», які арганізавалі ЭўроФорум і Польскі інстытут у Менску. Сэмінар адбываўся 5-6 сьнежня пры садзеяньні і ў памяшканьні Беларускага Гуманітарнага Адукацыйна-Культурнага Цэнтру (БГАКЦ).

Удзельнікамі сэмінару з польскага боку былі Акаш Энгельмаер - нядаўні пасол Вугоршчыны ў Польшчы й Беларусі, які навстала жыве ў Польшчы, а таксама доктар Станіслаў Брындза-Стабро - выкладчык Ягелонскага ўнівэрсытэту, спэцыяліст у польскай культуры сучаснай эпохі.

Даклады й дыскусіі нечакана ажывілі тэмы й успаміны пра вугорскае паўстаньне 1956 году, пра нонканфармізм у культуры, пра пазацэнзурныя літаратурныя выданьні за часамі камуны. Беларускія ўдзельнікі (Ігар Бабкоў і Павал Церашковіч) узьнялі новую беларускую тэму - нясконченую мадэрнасьць.

Названы сэмінар быў першаю акцыяй у рамках толькі што распачатага й абвешчанага на гэтым сэмінары праекту «Беларускі Калегіюм», за які салідарна бяруцца некалькі незалежных беларускіх інстытуцыяў - ЭўроФорум, БГАКЦ, Беларускі Інстытут Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Сярод стратэгіяў сучаснага беларускага грамадзтва адукацыйная стратэгія была найменш апрабаванаю. Цяпер ёсьць перакананьне ў неабходнасьці адукацыйных праектаў, зь якіх адным з самых значных стане «Беларускі Калегіюм».

**Алег Дзярновіч**

# РЭХА

**Зьміцер Бартосік**

Шэсьць гадоў таму, калі я толькі адкрыў для сябе наша Каралеўства, галоўнай і пачэснай задачай для сябе я бачыў поўны й беспаваротны паварот свайго языка на, так бы мовіць, 180 градусаў. Перавод мысьленьня й маўленьня на беларускую мову ўяўляўся мне актам кшталту пасьвячэньня ў рыцары, і ня менш захапляў, чым разьвітаньне з Радзімаю. Але ўвесь гэты патас азмрочвала пэрспэктыва размовы з праваднікамі, таксістамі ды дзяржгандляркамі, адным словам з тым кантынгентам людзей, у чый абавязак якраз і ўваходзіць лаўленьне ды выконваньне кожнага нашага слова.

Я разумеў, што рана ці позна такі крок зрабіць прыйдзецца. Самому сабе хлусіць заўсёды цяжэй, але нічога. Колькі я тады знайшоў абгрунтаваных нагодаў для пераносу таго панядзелка, зь якога я й пачну новае жыцьцё ў новай краіне, у новым моўным рэжыме. Вось толькі пабачу наш сьцяг на галоўным флагштоку, вось толькі пакіну Літву, вось толькі дачакаюся нашай перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах, вось толькі ,пачую вынікі рэфэрэндуму... Я добра памятую той дзень, і памятую сваю першую рэакцыю на тыя лічбы — я запісаў іх на свой асабісты рахунак. Пра «безгаловае быдла» было пасьля, але першая рэакцыя аказалася больш слушнаю. Перачакаў, недачакаўшыся. Я тады часта згадваў Брэдбэры зь ягонай прычыннавыніковаю сувязяй. Няўжо ён меў рацыю, і нейкая дробязь, такая, напрыклад, як вымаўленае слова, можа павярнуць хаду гісторыі. Галоўнае, каб тое краевугольнае слова было своечасова пачутае. Калі•гэта сапраўды так, то чаму б таму слову ня быць маім? Калі й ёсьць тут элемэнт абсурднага самаўзьвялічваньня, то нядоўгі. Слова засталося мёртвым...

Чамусьці мне здаецца, што з такімі думкамі я сёньня не адзін. Колькі разоў я назіраў, як мае аднамоўныя прыяцелі пераходзілі пры сутыкненьні з грубым жыцьцём на russian. Не дзеля таго, каб іх лепш зразумелі, а хутчэй у мэтах абароны. Ад чаго? Ад нежаданьня пачувацца меншасьцю, ці, можа, каб ня даць атаясаміць сябе з Пазьняком? Але тое, што мова можа стаць фактарам наступу й атаясамляюцца з больш прывабнымі рэчамі й асобамі, мне здаецца, толькі зараз пачынае ўсьведамляцца тымі, хто сам аднойчы парадзіў ды ажыцьцяўляў прынцып дзьвюхмоўя, ці білінгвізму, яшчэ да ўсялякіх рэфэрэндумаў. Тады гэта была памылка, за якую мы спраўна плацім ужо які год. Усё ніяк не даючы сабе рады — вакол каго ж гуртавацца? Вакол тых, што «ў вэртыкалі» — і брыдка, і недальнабачна. Вакол тых, што «ў гарызанталі» — сябе не паважаць. І пачынаецца дрыжаньне рук і мазгоў, а ўласная інэртнасьць сьпісваецца на адсутнасьць мітычнага лідэра. А лідэр, між тым, ёсьць. Зь ім ня кожны знаёмы, ён ня ў кожнага на слыху, але яму не пагражае старэньне й сьмерць. Ягоныя магчымасьці й стратэгічныя якасьці яшчэ не апрабаваныя ў нас і на адну адсотку. Мала каму прыходзіла ў галаву ставіць на яго, як на палітычны, ці, тым больш, эканамічны козыр. Што, зрэшты, ніяк ня зьменшыла



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Невядомыя кнігі Скарыны...

Працяг са старонкі 1.

кніга прададзеная, яе заставалася толькі выкупіць. Працэс выкупу трэба было прысьпешыць, бо тэрміны і ўмовы дыктаваў аўкцыён. Тады я паведаміў дырэктару Нацыянальнае бібліятэкі ў Менску Галіне Алейнік, каб яна знайшла ўсе магчымыя шляхі як найхутчэйшай перадачы грошай, каб можна было выехаць у Лёндан і кнігу выкупіць.

Далей я мушу адгарнуць сумную старонку гэтай гісторыі. На жаль, сама бюракратычная працэдура атрыманьня бібліятэкай грошай даволі складаная, заблытаная і ў нашай сытуацыі амаль не пакідала ніякіх шанцаў на посьпех. У той дзень, калі паводле ўмоваў аўкцыёну мне трэба было канчаткова вырашаць (а я, ясная справа, дзеля падстрахоўкі зьвязаўся зь яшчэ некаторымі ўстановамі, якія былі б гатовыя выкупіць гэтую кнігу), грошы, якія міністэрства выдзеліла, толькі меліся паступіць на рахунак бібліятэкі ў выглядзе беларускіх рублёў. І гэтак былі перакрытыя ўсе шляхі гэтай кнігі ў Менск. Абставіны прымусілі мяне прыняць запасное рашэньне, а менавіта прапанаваць гэтую кнігу для набыцьця беларускай бібліятэцы ў Лёндане, дзе дырэктарам айцец Аляксандар Надсан.

5 сьнежня ўсё адбылося даволі будзённа. Мы з айцом Надсанам зайшлі ў памяшканьне аўкцыёну. Кніга аказалася цудоўна захаваным фаліянтам у драўлянай вокладцы, абцягнутай валовай скурай. Мы скіравалі да касы, айцец Аляксандар выпісаў чэк і такім чынам акт пакупкі на аўкцыёне «Christie's» адбыўся.

Што да ўладальніка кнігі, аўкцыён ня мае права паведаміць, хто быў той прадавец. Адзінае, што нам паабяцалі (мы пакінулі свае каардынаты), што паспрабуюць зь ім зьвязацца. Нам сказалі, што гэта чалавек, які часта бывае ў разьездах і што калі яны яго знойдуць і калі ён згодзіцца даць нам інфармацыю, яны нам паведамяць. Так што гэта наступны разьдзел гісторыі, разьвязкі якога трэба яшчэ дачакацца.

*(Гэты матэрыял падрыхтаваны пры спрыяньні Алены Ціхановіч і Беларускай рэдакцыі радыё Свабода.)*

***



Гадоў 10 таму, калі мы зь сябрамі набіралі тэксты першых незалежных газэт на кампутары, нельга было нават уявіць сабе, якая рэвалюцыя тэхналёгіяў адбудзецца неўзабаве. Тая кампутарная прыстаўка да тэлевізара, зь якой файлы перапісваліся на магнітафон, выглядала больш на забаўку, чым на заўтрашні дзень выдавецкае справы. Тады, 10 гадоў назад, паўсюль яшчэ стаялі лінатыпы і кожны газэтны і кніжны радок адліваўся ў мэтал. Друкарні мала чым зьмяніліся ад Скарынавых часоў. Хіба што болей стала грукату і смуроду.

І вось сёньня, праз 10 гадоў, ужо цяжка ўявіць сабе газэту або кнігу, якая набіраецца ў мэтале, або выдавецтва, не аснашчанае кампутарамі. Найноўшыя праграмы вёрсткі, прыёмы сканаваньня здымкаў, найусялякія шрыфты... Магчымасьцяў столькі, што не пераспрабуеш за жыцьцё. Гэтак на тэрыторыі разваленага сэсэсэру непрыкметна адбылася амаль нікім не заўважаная сапраўдная рэвалюцыя тэхналёгіі, інфармацыі і культуры. Яна стала часткай усеагульнай рэвалюцыі, імя якой Інтэрнэт.

Сусьветная кампутарная сетка заўтра заменіць тэлевізар, радыё, а магчыма і газэты зь бібліятэкамі. Праблема выбару інфармацыі набывае тут зусім іншую якасьць. Вы прыходзіце дадому, сядаеце ў фатэль і выбіраеце не адзін зь пяці або пяцідзесяці тэлеканалаў, а тое, што вам хочацца глядзець і слухаць: апошнія навіны зь любой сфэры жыцьця на любой мове, або кінафільм — адзін з усіх калі-небудзь зьнятых, або нават размову зь сябрам, які пяць гадоў назад эміграваў у Аўстралію і хоча паказаць вам сваіх авец. Іншая якасьць выбару безумоўна паўплывае на характар і сутнасьць чалавека, зьменіць яго так, як у свой час зьмяніла урбанізацыя. Для беларускай культуры гэтыя зьмены азначаюць новы этап — пасьля Скарынавай друкаванай кнігі. Усё гэта адбываецца сёньня, у канцы XX стагодзьдзя, але зьменены культурны ляндшафт мы пабачым, бадай, ужо ў наступным тысячагодзьдзі.

Рэвалюцыя адбываецца непрыкметна, але пры гэтым яна татальна руйнуе ўсе ранейшыя ўяўленьні і нават ідэалёгіі. Уявіце сабе гома саветыкуса, які пралічвае мэгабайты свайго харддыска або шукае аднадумцаў у Інтэрнэце. Я не ўяўляю. Рэвалюцыя не заўважаецца, таму што для нас яна ўсё яшчэ чужая. Яна ня стала тэмай дыскусіяў у друку. Усе дыскусіі і пазнавальныя матэрыялы нібы з маўклівае згоды аддадзеныя на водкуп Захаду, дзе, зрэшты і ствараюцца новыя тэхналёгіі. Але пра тое, якія зьмены гэтыя тэхналёгіі прыўносяць у беларушчыну, у нас не гаворыць. Хоць, магчыма, гаварыць пра гэта нашмат важней, чым абмяркоўваць антыбеларускія дэструкцыі сёньняшняга рэжыму. Прынамсі, гэта стваральная тэма, якая абяцае беларушчыне вялікую будучыню.

Уявіце сабе, што праз тры-пяць гадоў Інтэрнэт будзе ў кожнай школе, у кожнай бібліятэцы, у кватэрах. І канкурэнцыйнасьць нашае культуры ў кібэрпрасторы запатрабуе ад нас зусім іншага погляду, іншага мысьленьня, іншых хуткасьцяў. Напрыклад, поўны збор твораў Купалы вы набудзеце на адным кампакт-дыску, дзе акрамя тэкстаў будуць і жывы голас песьняра, і, скажам, відэазапіс ягонай п'есы «Тутэйшыя» ў Купалаўскім тэатры, і ўся пэрсанальная энцыкляпэдыя «Янка Купала». Прычым выраб такога дыска зойме некалькі месяцаў, тады як традыцыйны Збор твораў патрабуе доўгіх гадоў выданьня.

Ведаю, што нашы пісьменьнікі старэйшага пакаленьня адхрышчваюцца ад кампутара як ад чорта. Але, на жаль, публічныя дыскусіі пра мастацкае слова ў Інтэрнэце вядуцца ня ў нас, а ў Амэрыцы, дзе ўжо выказаная ўся магчымая аргумэнтацыя як за так і супраць. Беларусь не навалілася талакою на кібэрпрастору. У нас зусім няма беларусізаваных праграмаў, мы карыстаемся расейскімі, польскімі або ангельскімі. Створаны некалі Віктарам Аўтушкам кампутарны перакладчык з кірыліцы на лацінку — ці не адзіная беларуская праграма за гэтыя 10 гадоў.

Тым ня менш, беларускае слова пашыраецца ў Інтэрнэце. Мы таксама апаноўваем гэтую прастору. Некалькі газэт, падштурхнутых да кібэрпрасторы небясьпекаю быць закрытымі ва ўласна газэтным выглядзе, кнігі, даведнікі. Паказальна, што найбольшая беларуская культурная падзея, зьвязаная з Інтэрнэтам, злучыла сёньняшнюю тэхналягічную рэвалюцыю з папярэдняй, з імем Скарыны. Сяргей Шупа адшукаў у кампутары выстаўленую на продаж ягоную кнігу.

Гэтая падзея нацыянальнага маштабу наштурхоўвае на процілеглыя думкі. Па-першае, пра маральны бок справы, калі асобныя людзі набываюць кнігу, якая б зрабіла гонар нацыянальнай бібліятэцы ды і ўсёй краіне, галоўны праспэкт якой носіць імя першадрукара. Набываюць таму, што дзяржаўныя органы гэтай краіны тое мала абыходзіць. Па-другое, думаецца пра будучыню беларушчыны ў кібэрпрасторы. Другая тэма, безумоўна, цікавейшая, бо дазваляе казаць пра рэальныя справы і самыя неверагодныя фантазіі, якія пры новых тэхналёгіях можна ўвасобіць у жыцьцё. Мабыць, у наступным стагодзьдзі гэтая тэма стане галоўнай тэмай культуры ў Беларусі. А першая думка, наадварот, можа завесьці ў прыгноблены стан, чарговы раз прымусіць казаць пра пагібель беларушчыны, мовы, культуры. Калі ж дзьве гэтыя думкі зьвесьці разам, мы атрымаем яшчэ адзін доказ часовасьці сёньняшняга антыбеларускага рэжыму, які не знайшоў у сабе ані сродкаў, ані цікавасьці, ані элемэнтарнага разуменьня, каб прыдбаць для нашчадкаў вечную кнігу.

Бадай, галоўная асаблівасьць Інтэрнэту — гэта ягоная ўсеагульнасьць. У гэтай прасторы беларуская культура сапраўды адкрытая сьвету. Яе творы могуць уваходзіць у Інтэрнэт у любой кропцы Зямлі і ў любой іншай кропцы прымацца. Яе будучыня тут залежыць толькі ад яе самой. Яшчэ трохі, і гэтая гіганцкая хваля зьнясе на сваім шляху ўсё, што прыносіць нам сёньня так шмат засмучэньняў і праблем.

**Сяргей Паўлоўскі**

# НЕПРАМОЎЛЕНАГА СЛОВА

ўсіх таямніцаў гэтай зусім не сакрэтнай зброі. Я ўсё пра НАШУ МОВУ.

«Мова — гэта ж як мама!», — гледзячы проста ў вочы праваднiцы, гучна «дзівіўся» мой сябра зь яе неразуменьня «шклянкі гарбаты». Я ж шчыра быў зьдзіўлены той прыемнай пераменай у абслугоўваньні менавіта нашага купэ пасьля тае «мамы». Сапраўды, што можа быць лепшым за такі аргумэнт? Ды яшчэ з адкрытаю усьмешкаю. Меў рацыю Жаглоў — людзі любяць, калі ім усьміхаюцца.

Не франтавыя лініі дэмакраты-камуністы, ці правыя-левыя, ці прызнаныя-непрызнаныя, ці незалежныя-дзяржаўныя, а цьвёрда пастаўленая намі БЕЛАРУСКА-САВЕЦКАЯ граніца можа выратаваць нашыя імёны й нашыя справы. Граніца перш за ўсё па мове. Той, што, хутка як дзесяць гадоў, прысутнічае ў беларускай палітыцы. Мове, як нашаму кансаліданту, нашаму культурнаму полю, як галоўнай прыкмеце нашай «нашасьці», ды нават мове, як фактару эканомікі. Мяжа-прынцып, перш за ўсё ўзьведзеная ў сьвядомасьці, дзе шмат хто з нас ахоўвае сваю «сьвятую» мову ад зямнога ды банальнага, баючыся выпусьціць словы на волю, каб яны нарэшце працавалі.

«Куда едем?», — нахабна запытаў гомельскі таксіст, не пасьпеў я падысьці да машыны. «Дамоў», — адказаў я, сядаючы ў салён. Больш ён да самага дому не прамовіў ні слова, не забыўшыся ўключыць лічыльнік. Мы абодва былі трохі не ў сваёй талерцы. Ён ад таго, што ня ведаў, як сябе са мной, рэдкаю птушкай, паводзіць. Я — ад таго, што ўпершыню ехаў у таксі звычайным пасажырам, гэта значыць тым, хто плаціць і паказвае дарогу. Ад заплянаванага хамства закрыўшыся словам, нібы шчытом.

Разьбітыя расейска- ды ангельскамоўныя вітрыны й рэклямныя стэнды, выбітыя зубы няздольных адказаць на простае пытаньне «Колькі часу?», страх адкыта і ўголас станоўча выказвацца ў коле сваіх аднагодкаў у бок уладаў — можа, на чыюсьці думку гэта сюжэты маёй узбуджана-хворай фантазіі, на маю ж — цалкам магчымы занятак будучых гаўрошаў з Чыжоўкі ды Шабаноў. «Залатая моладзь» ужо дастаткова навыказвалася за мінулыя гады, слова за дзецьмі рабочых кварталаў. За тымі, хто, прыйдзе час, апране лейтэнанцкія й капітанскія пагоны, каб прымусіць пані Гісторыю зноў стаць да нас і да нашай будучыні тварам. Але каб генэралы нашых кар'ераў пераходзілі на наш бок, яны ж павінны чуць наша слова. Прычым чуць амаль штодня й безь мінорных таноў. Так, каб ім захацелася атаясамляць сябе з намі. Каб ім захацелася перайсьці на наш бок тае Мяжы.

На мае «калі ласка» лідзкая буфэтчыца прыязна перапытала — «ці ня зь Менску я?» Так разам з найлепшым нашым півам я пакаштаваў смак сваёй нечаканай сталічнасьці, дзякуючы белмове. Колькі разоў пасьля гэтага выпадку я з прыемнасьцю аднаўляў гэты смак пры выпадковых дарожных размовах. Зрэшты, нічога дзіўнага я ў такой абгортцы нашае мовы не знаходжу. Словаў «калхоз» і «дзяроўня» я ня чуў даўно. Ці яны памёрлі, ці, можа, яшчэ дзе жывуць у калхозах? Адным словам, калхозу — калхозава.

Не магу сказаць, што асабіста мне хапае сёньня культурнай ды жыцьцёвай прасторы па наш бок мяжы. Але жыць можна, хоць і прыходзіцца абмяжоўвацца. Хай я занадта мала важу ў ступені ўплыву на навакольную рэальнасьць, але мой грош таксама рэальны. І нішто не прымусіць мяне «пить» яго «Coca-Cola», калі побач прадаецца «Траецкае піва». Я не прымушу сябе доўга выбіраць паміж «Биг-Маком» і беларускім хат-догам. Таксама як не пайду слухаць ніякую беларускую рок-групу на юбілейным «празьнікe Мінска». Трэба адчуваць мяжу дазволенага. Але якраз з культурнаю ежай, прадчуваю, голаду на бліжэйшы час не намячаецца. Прыстойнага чытва мне хопіць, я ўжо не кажу пра тэатральныя ды мастацкія імпрэзы. Вось толькі што рабіць з рэстарацыямі? Была б мая воля, адкрыў бы ўстанову пад назваю «Толька для БЕЛ». Тыя ж, хто сьвядома рушыў на савецкі бок, першае, што павінны пачуць — гукі нашых, некалі адчыненых, дзьвярэй, што зачыняюцца для іх назаўсёды. Яны павінны адчуць жалезную халодную заслону. З нашага боку.

Ёсьць у Менску крама «Просто джинсы». Там сапраўды добрыя джынсы ня самых «наварочаных» фірмаў і па людзкіх коштах. На мае слова там адказалі маім жа словам, і нашымі словамі разьвіталіся. Бліжэйшым часам я пайду ў гэтую краму й набуду сабе джынсы чым даражэй, вядома, не забыўшыся параіць ім памяняць пару літараў на шыльдзе. А пасьля зайду ў адну кавярню, дзе абмыю пакупку стопкай «Белай Русі» пад селядзец і шчырае «калі ласка» бармэна. Можа, даць адрасок тае крамы і таго шынка? А чаму гэта я ўвогуле павінен займацца справамі Таварыства Беларускай Мовы?

Зь нядаўняга часу я перастаў радавацца зь дзіцячым захапленьнем кожнаму пачутаму ў адказ ці прачытанаму беларускаму слову. Канчаткова зрабіўшы свой выбар на ягоную карысьць, я ўсё часьцей пераконваюся ў ягоных чарах ды выгодах. Я даўно ўжо не прадстаўнік пераможанага боку. Наадварот, я чалавек з глыбокай глебаю пад нагамі, зь цёплаю вераю ў сэрцы й пэўнымі прынцыпамі ў галаве. Я жыхар з усіх бакоў зручнай для жыцьця эўрапейскай краіны, і нават зь нядаўняга часу яе сталічны абітальнік. Да таго ж, як высьветлілася, у мяне цудоўнае менскае вымаўленьне, якое ў спалучэньні з маім чароўным голасам абяззбройвае нават тралейбусных кантралёраў. Калі ж яшчэ дадаць, у якім кантэксьце я працую ды зь якімі людзьмі побач, то мне становіцца нават перад самім сабою крыху няёмка. І хай у мяне ў гэтую хвіліну няма грошай на тыя джынсы, я не ўяўляю — што можа прымусіць чалавека перайсьці тую мяжу, якая ўсё больш відавочна становіцца мяжой паміж «учора» й «заўтра».



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# эпікон

Алесь Белы

## ХВАРОБА

Як заўсёды. Нечакана і подла. Зьявілася. Паклала мяне ў ложак і накрыла нейкай ромбападобнай коўдрай. Стала каля і сьмяецца. Пхае ў мяне нешта, рэжа на кавалкі, шукаючы нешта ўнутры мяне. Хоча адкруціць галаву, але яна моцна прывінчаная.

Нясмачна. Так заўсёды бывае пры ёй. Яна не дае адчуць смак. Смак паветра і бруднай вады.

Усё горш. Але яшчэ ня я. Нехта дакучліва стукаецца мне ў скронь. Яны прыйшлі па майго суседа, але памыліліся дзьвярыма. Ці проста хочуць нагадаць пра сябе. Але ня хочацца. Хочацца выгнаць іх усіх і ня бачыць іх больш ніколі. Але як бы далёка ты ня зьбег, яны вернуцца...

Суседа ўжо забралі. Ён зараз там, зь імі, пакінуў нам толькі сваю вопратку. Там не патрэбная вопратка. Мы напужаныя, а я яшчэ больш напужаны. Што можа пужаць больш, чым напужанасьць?

Яна, гэтая самая, адвярнулася. Спыніла свой дзікі сьмех, калі ўбачыла нянавісьць у маіх вачах. Самую сапраўдную нянавісьць замест звычайнай пакорлівасьці й маленьня. Яе можна забіць. Сваёй нянавісьцю. Яе можна забіць толькі пачуцьцём, нічым іншым. Яе трэба забіць, іначай яна зробіць зь цябе чучала, наб'е цябе плоскімі цыліндрыкамі едкага колеру. Ты будзеш увесь сьвяціцца і ня вытрымаеш гэтага жахлівага сьвятла. І ты сыдзеш да іх. І да свайго суседа.

Яна хоча зьбегчы, але прымітыўнае пачуцьцё ўласнай годнасьці стрымлівае яе. Ніколі яшчэ яе не выстаўлялі. Ніколі яшчэ яна не зьбягала. Але зараз, пэўна, прыйдзецца. Хутка й баязьліва, пакінуўшы мяне аднаго. Я дастану зь сябе ўвесь гэты едкі колер і закапаю яго ў садзе.

Я ўсё ж такі тут, а ня там. Я прагнаў яе. Яна зьбегла. Але хутка яна вернецца, і зь ёю будуць яны...

Вольга Колас

## УГЛЯДАЮСЯ Ў НЕБА...

***

Начное неба. Начное балота, дзе раскрыліся бліскучыя вяночкі цудоўных лілеяў зь вялікімі вачыма. Поўня, на твары якой ляжыць пячатка вечнай задумёнасьці, акаймаваная жоўтым зіхоткім кругам. Навокал – цёмна. Я гляджу на поўню, і яе халаднаватае сьвятло пранікае праз мае вочы ў мяне. Бясслоўная размова.

***

Цяжка ўявіць, што неба – гэта блакітная пустэча, якая не зьяўляецца для нашай плянэты дахам. Мы адкрытыя магутнаму сусьвету. Калі б у нас была магчымасьць лятаць, мы б адарваліся ад зямлі, падняліся да аблокаў, уляцелі б у чорную цемру і маглі б там лётаць бясконца, пакідаючы за сабой зоркі, плянэты, галяктыкі. Кожны знайшоў бы месца для сябе, для роздуму. Можа там бы і застаўся жыць. Магчыма, ён шукаў бы там прытулак ад зямных праблем, праводзіў у Сусьвеце свой адпачынак, быў гаспадаром сваёй зоркі, хадзіў у госьці да суседзяў. Калі б для некага не было месца на Зямлі, ён бы ўтульна пачуваўся там, уверсе ці ўнізе, на захадзе ці на ўсходзе ад нашай Радзімы. Была б большая свабода дзеяньняў. Але наўрад ці калі мы перастанем быць жыхарамі плянэты Зямля і зможам зьнікнуць у блакіце.

***

Чалавек ня будзе адзінокім. Дзе б ён ні знаходзіўся, зь ім заўсёды будзе неба. Дастаткова падняць вочы, каб убачыць вернага сябра.

***

Па-мойму, патрэбна ставіць сябе побач зь вялікім сусьветам маленечкай зоркай на небасхіле, што сьвеціцца, пакуль ты жывы, адчуваць сябе часткай вялікай магутнасьці і рабіць намаганьні, каб пакінуць добры сьлед на адной з дарог бязьмежжа.

***

Вельмі выразна бачу чароды сьветлых зорак у чорнай галяктыцы. Побач з адной зь іх – сьлед чалавечай нагі.

***

Уначы неба ператвараецца ў высокі касьцёл. Запальваюцца сьвечкі – зоркі ў чорным бязьмежжы. Нябачыня сьвятары – анёлы чытаюць малітвы. Урачыста грае арган. Мы схіляем калені, скрыжоўваем рукі і застываем у здранцьвеньні...

Сяргей Конан

## СУСТРЭЧА

Ішоў Ён па вуліцы, чыстай як само жыцьцё, белай як зіма. Крочыў, не зьвяртаючы ні на што ўвагі, толькі ўглядаўся ў твары мінакоў. Ішоў і не знаходзіў патрэбнае, у кожным твары нечага не хапала: то думкі, то сьвятла, то нечага яшчэ. А ня будзеш жа кранаць такіх, яны не зразумеюць і пройдуць міма, яшчэ й пасьмяюцца, а то й спалохаюцца. Але Ён настойліва крочыў па шырокіх і вузкіх вулках, па алеях і праспэктах, шукаючы суразмоўцу. Ужо колькі тысяч гадоў Ён ні з кім не гаварыў, прыйшоў час размовы. Душа балела і ныла. Так, і ў Яго ёсьць душа, якая можа балець. Да гэтага дня ўсё было добра, а вось сёньня ўзяло ды зашчаміла.

Калі вы даведаецеся, хто Ён, вы можаце засумнявацца. Падумаеце: «Мана то твая, хлопча». Не, не мана. Ён мне сам сказаў. Ну вось я і прагаварыўся. Добра, Ён сустрэў чалавека, зь якім можна было пагаварыць, гэта быў я.

– Прабачце, можна ў Вас запытацца, ці хочаце Вы пагаварыць аб тым, што ў Вас ёсьць цяпер на душы?

Учора я б усьміхнуўся і пайшоў далей, назаўтра можа б спалохаўся, але сёньня я сказаў:

– Так.

Ён спыніўся, паглядзеў на мяне ўважліва і пачаў гаварыць:

– Я стаміўся, хоць не магу стамляцца, адчуваю, хоць гэта немагчыма. У Мяне чалавечыя клопаты, але Я не чалавек.

Вы пачынаеце ня верыць мне. У вас пытаньне. Калі ты не вар'ят, то чаму размаўляў далей з гэтым «не чалавекам». Але я вас папярэджваў, я быў такім у гэты дзень. Бываюць жа ў вас моманты, калі вы стаіце перад вакном глыбокім вечарам. Зоры, ліхтары, і вас цягне няведамая сіла, хочацца растаяць за вакном. Бывае? Хай рэдка, але такі рэдкі дзень быў у мяне сёньня.

– Я гэтаму не дзіўлюся, у кожнага ў сваім «сёньня» можа быць тое, чаго ніколі не было. Я сёньня адчуваю зачараванасьць, але праз тое не лічу сябе нечалавекам.

Мой суразмоўца ўсьміхнуўся:

– Але Я сапраўды нечалавек. Справа ня ў гэтым. Я ішоў тысячы кілямэтраў, не адчуваючы ні стомы, ні адчаю. Шукаў, часам знаходзіў, але знойдзена было так мала. Зярняты, пасаджаныя тысячы гадоў таму, далі ўсходы. Я думаў, што будзе суцэльная прастора іх, але ёсьць толькі купіны, як на якім балоце, а навокал твань. Яна, можа, і ня злая, але гэта твань без чысьціні, без надзеі, без анічога.

– Але што, што за зярняты былі пасаджаныя?

– Зярняты любові, гэтага найпрыгажэйшага пачуцьця. Яны далі ўзыходы, але ня шмат, і зьяўляюцца то там, то тут. Зьяўляюцца і зьнікаюць, і таму мне стала сумна.

– Я ня згодны. Чаму мала? У кожнага ў сэрцы ёсьць зярнятка любові. Праўда, ня кожны і ня кожнаму ствараюць тую атмасфэру, у якой магчымае прабуджэньне. Многія, толькі абудзіўшыся, адразу гібеюць, а каторыя так і застаюцца ссохлымі.

– Ссохлымі. Значыць, высілкі шмат у чым марныя, а як цяжка ізноў сеяць і хадзіць па вулках, гаварыць свае прамовы, абнадзейваць, зачароўваць, потым чуць і не адчуваць кпіны і боль-узнагароду за маю любоў. Я ішоў і іду зь любоўю ня толькі ў словах і сэрцы, а і ў дзеях. Кожны мой крок – гэта толькі любоў да ўсіх і ўсяго. Да добразычліўцаў, да тых, хто лічыць Мяне ворагам. Многія Мяне ўспрынялі, слухалі, запісвалі мае словы, ішлі за Мною да апошняга. І нават пасьля ішлі з маім імем у сэрцы. Але любоў гублялася. Яны верылі Мне, стараліся рабіць, як Я казаў, але любоў зьеў страх. Ён кіраваў ужо імі – не рабі так, не рабі тое, бо будзеш пазбаўлены краіны любові, якой людзі так жадалі і жадаюць зараз. Краіна, дзе ціш і спакой.

– А яна ёсьць, гэтая краіна? Можна яе пабачыць, быць там, ці ўсё прыгожае – прыдумка?

– Яна ёсьць. Што ты адчуваеш зараз?

– Я? Цікаўнасьць, спакой, мора любові. Я сёньня люблю ўсіх і ўсё... Сёньня такі дзень.

– Табе патрэбная зараз нейкая цудоўная краіна?

– Не.

– Вось бачыш, яна ёсьць, яна зараз у табе самім. Ня трэба адчуваць страх, адчуваць нейкі боль, біцца галавой аб сьцяну часу. Проста трэба адчуць любоў і не пакідаць яе.

Сьнег, які падаў павольна, закружыўся, пачаў неяк мітусіцца вакол нас.

Я паглядзеў у Ягоныя вочы, упершыню за час нашай размовы, і скамянеў, зачараваны – там быў час, прастора і нешта яшчэ, невядомае, магчыма, нікому. Гэта быў Ён. Перада мною стаяў сам...

Убачыўшы маю ўтрапёнасьць і скамянеласьць, Ён проста сказаў:

– Так, гэта Я. Дзякуй за размову. Я шмат гаварыў, ты слухаў, таму ёсьць над чым падумаць. Толькі зараз Я ня быў Ім, а проста суразмоўцам. І ведаеш, можа ў суцэльнай любові губляецца сам чалавек.

Я стаяў і глядзеў, як Ён ішоў прэч. Раптам, павярнуўшыся, кінуў мне:

– Да сустрэчы.

Але я не злавіў ягоных словаў. Яны бразнуліся і пакаціліся па засьнежанай алеі.

Юрась Юркавец

## БАРАДА

У майго аднаклясьніка Сярожкі Р. у сёмай клясе нечакана для ўсіх і для яго самога, паверх россыпу прышчоў вырасла барада. Праз сваю безнадзейную сьлепату даўгалыгі аксэлерат Сярожка сядзеў за першаю партай, і настаўнікаў апаноўваў шок, калі, узьняўшы вочы ад кляснага журнала, іх позірк уперваўся ў дрымучую гаспадарскую барадзёху. У свавольстве прыроды ім бачылася нейкае небясьпечнае вальнадумства, праява, так бы мовіць, рэзыстансу, накіраванага супроць усяе школьнае сыстэмы.

Абураныя да глыбіні душы, пэдагогі пачалі крэмзаць дакладныя дырэктрысе. І дырэктрыса, сваім зьяўленьнем гвалтоўна парушыўшы нясьпешную плынь уроку літаратуры, запатрабавала згаліць бунтарскую порасьць. Сярожа пратэставаў юнацкім басам і, разгарнуўшы дзёньнік на правілах паводзінаў вучняў, настойваў, каб яму паказалі пункт, які забараняў бы яму, навучэнцу сярэдняй школы, наведваць заняткі ў барадзе і абавязваў галіцца штораніцы перад урокамі...

Была сабраная пэднарада, Сярожкавых бацькоў тэрмінова выклікалі ў школу. І пад такім магутным напорам Сярожка адступіўся. Назаўтра ён зьявіўся ў клясу ўжо паголены і шляхетна пыхацеў адэкалёнам «Шыпр». Як ня дзіўна, але ён не выглядаў прыгнечаным, наадварот – ягоныя вочы зьзялі пераможным агнём. У адказ на ўсе роспыты ён зацягнуў хлопчыкаў нашае клясы ў прыбіральню і, прыспусьціўшы штаны й майткі, прадэманстраваў нам ніз уласнага жывата... Мы проста ахнулі!.. Маманька родная! Барада нейкім чынам перамясьцілася на жывот!.. Мы, хлапчукі, зь яшчэ голымі падбародзьдзямі й целамі, пазіралі на гэтае відовішча затуманенымі ад прыбалдзеньня вачыма...

І калі на вялікім перапынку ў дзьвярах зьявіўся абрыс дырэктрысы, каб засьведчыць паразу супрацiўніка, мы зь Сярожкам па-змоўніцку абмяняліся ўхмылкамі: бунт працягваўся.



Андрэй Задорын, "Стара-Барысаўскі тракт"

Ірэна Янчанка

## БАЛЯДЫ СОНЦУ

Што я ёсьць? Што ёсьць я?

Грунтоўныя пытаньні.

Адказы ўтрымліваюць сэнс жыцьця. Майго.

Гэтыя адказы – неабходныя і дастатковыя ўмовы для таго, каб знайсьці ўсё астатняе: мэты, шляхі да іх, адносіны да таго і да тых, хто побач, разуменьне Сябе, Людзей, Сьвету...

Мне здаецца, што я вось-вось дацягнуся да іх. Трэба зрабіць толькі адзін крок. Пераступіць далягляд.

Што я ёсьць? Што ёсьць я?

Калі ласка, адкажы мне!

***

Тралейбус падскочыў на выбаіне. Я ўключылася ў рэчаіснасьць.

«Настрою ніякага... Я ж ведаю людзей. Тады чаму я ізноўку пакутую? Я ж не памылілася і пра ўсё здагадвалася. Усё гэта – мроі...»

Нехта сеў побач. Я адвярнулася ад вакна.

– Выдатнае надвор'е, так?

– Не.

Сустрэла просты позірк васільковых сьмяшлівых вачэй. Прыкра й агідна: чаго яшчэ ад мяне трэба?! Я зноў утаропілася ў вакно.

«А сапраўды надвор'е – ня вельмі: хмарна ды брыдка. Адкасьніцеся ўсе ад мяне! Але ж вочы былі неблагія...»

– Можна задаць крымінальнае пытаньне?

– Задаць – можна.

– Ці не назаве жыцьцярадасная фэя сваё імя?

– Нашто?

– Хацеў ведаць, як зьвяртацца. Я сёньня прачнуўся Міхасём.

– Тады я, пэўна, Вярэнай.

«Ну што ж. Усё адно ён хутка сыдзе. Бо хутка мой прыпынак – апошні... Нешта ў ім ёсьць. Няма звычайнага нахабства. Магчыма, у яго проста добры настрой?!»

– Я ўжо моцна Вам надакучыў?

– А якога адказу Вы чакаеце?

– Ня ведаю. Проста не хацеў бы.

– Хм, хіба Вам не здаецца...

– Але ж...

– МНЕ не патрэбны псыхааналітык. Тым больш...

– ... такі ёлупень.

– Якая самакрытычнасьць!

– Крыўдна...

– Менавіта што?

– Кожны раз чуваць: «Ды пайшоў бы ты...» – у больш-менш ветлівай форме.

– Я ня гэта мела на ўвазе.

– У Вас прыгожыя зялёныя вочы.

– Якія?! Яны спрадвеку былі шэрымі.

«Нішто сабе! У мяне шэра-блакітныя вочы. Калі гэта камплімэнт, то своеасаблівы да недарэчнасьці...»

– Дзе Вы сыходзіце?

– Гэта прынцыпова?

– Але ў Вас цікавая рэакцыя...

– ??

– Ды так. Я – праз два прыпынкі.

«На маім. Ат, «пашанцавала»... Але ж ён сапраўды цікавы...»

– Вы слухаеце музыку?

– Усе слухаюць яе так ці інакш.

– Я маю на ўвазе – інструмэнтальную?

– Так.

***

– Я жыву ў тым доме. Заходзьце да мяне. Паслухаем музыку.

«Вось дык так! І гэта – «няма нахабства». Я памылілася?! Але позірк – шчыры...»

– Гэта цяпер так завецца?

– Вярэна, Вы ж разумееце, што глупа мяне баяцца.

– Баяцца?! Сьмешна...

«Ой, хлопча, каму ты гэта кажаш?.. Баяцца, мне?!. Наколькі я разьбіраюся ў людзях, ты, здаецца, нічога. Але гэта варта праверыць...»

***

– Вера, табе каву ці гарбату?

– Гарбату.

– Як табе гэтая музыка?

-- Вельмі. А што гэта? Цікава й незвычайна.

– «Баляда Сонцу». Мая.

***

– Шчасьліва, Міхась.

– Я хацеў бы пакінуць табе гэтую касэту.

– Пакінуць?!

– Праз колькі дзён я зьяжджаю.

– Дзякуй.

– І табе дзякуй. Удачы.

«Вось цікава: прысьвячэньне Сонцу. Таксама. Як тады...»

***

Неба зацягнута хмарамі,
а я хачу паглядзець у вочы Сонцу.
Гэта вельмі цяжка,
але часам неабходна.
Яно – мой лепшы сябра – саграе
маю цьмяную душу.
Калі Яно доўга не зьяўляецца,
я страшэнна сумую.
«Сонейка маё,» – кажуць адзін аднаму людзі,
калі іх сэрцы перапоўненыя пяшчотаю.
«Радасьць мая,» – кажу я Сонцу,
калі мне цяжка,
і Яно атуляе мяне сваёй любоўю...
З-за хмараў зьявіліся першыя праменьчыкі.
Вітаю Цябе!..



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЭЎРАПЕЙСКАЕ РЭХА ПОЛАЦКАЙ ТРАГЕДЫІ

Праця̆г са старонкі 6.

татах таго ж Мікалая Кнора. У падназьве аўтар дакладна вызначыў тэму свайго твора — «Жаласны плач горада Полацка». Рэальныя полацкія падзеі ён увязаў у рэлігійны кантэкст і старэйшы беларускі горад паўстаў у пэрсаніфікаванай іпастасі, а перажытая ім бяда трактаваная як справядлівая Божая кара за грахі жыхароў.

У даўнім архіве Цюрыха дасюль зьберагаецца рукапісная газэтка, датычная нашай гісторыі — «Пасланьне зь Пётркава ад 3 сакавіка 1563 году пра тое, як справы ў Польшчы». У ёй аўтар паведамляе, як «мінулага месяца лютага... жахлівы вораг Маскавіт зь сілай блізу 200 тысячаў чалавек уварваўся ў Княства Літоўскае польскага караля. Апрача іншых, ён прыцёг з сабою 120 вялізных гарматаў. З жудаснымі забойствамі і пажарамі ён прасунуўся прыкладна на 80 міляў да ракі Вяльлі. Тут ён падышоў да высакароднага горада Полацка і падпарадкаваў яго штурмамі ды вогнекіданьнем. Так, пасьля вялікіх шкодаў ён захапіў горад і замак, дзе жудасным чынам пабіў шмат нашых; многіх ён паланіў, спаліў, утапіў, выслаў і зьдзекаваўся зь іх зусім не па-хрысьціянску. Але апісваць усё гэта было б страшна і складана». І ўсяго на дзень пазьней у Базэлі быў створаны яшчэ адзін рукапісны помнік пра разьню на Дзьвіне, зьберажоны таксама ў Цюрыху. Гэта «Новая газэта... пра тое, як, барані Божа, вялікі князь маскоўскі з 150 000 чалавек аблажыў Полацак, горад і замак у Літве».

Страшныя весткі пра вайну ў Беларусі зь нюрнбэрскіх лісткоў Мікалая Кнора хутка разыходзіліся па Эўропе, тыражаваліся на розных мовах. Па-чэску яны пераказваліся ў надрукаваных у Празе ў 1563 годзе «Навінах грозных, страшных і жаласных...», па-француску ў выданьні зь Ліёна, па-лацінску ў пэрыёдыку з Дуацы. Ёсьць інфармацыя, быццам існаваў




Гравюра на тытульным аркушы "Дакладнага апісаньня вялікага й магутнага паходу Маскавіта на Полацак", Нюрнбэрг.

і мясцовы, беларускі варыянт выданьня гэтых «навінаў»: «Новіны грозные а жалостлівые о нападе княжаті Московского Івана на землю рускую, которі то князь паленьем, тыранством, мордованем мест, замков добываньнем веліку і знаменіту шкоду вчыняет... З доданьнем реляцый Его Мілості Гетмана В.К.Л. княжаті Радзівіла о поражцы места Полоцкого, 1562». На жаль, сам помнік дасюль ня выяўлены, таму пра беларускія «навіны» нічога пэўнага пакуль ня скажаш.

Як бачым, беларускія падзеі тады адразу сталі справай эўрапейскай. Полацкая трагедыя амаль імгненна апынуліся ў цэнтры ўвагі цэлай хвалі эўрапейскіх пэрыёдыкаў, геаграфія паходжаньня якіх надзвычай шырокая — ад Любэка да Ліёна. Гэтыя газэты і лісткі сталі важнай крыніцай гістарычнай інфармацыі ня толькі для тых колаў, якім прызначаліся, але і для гістарыёграфаў. Іх сьведчаньні храністы ўключалі ў свае творы, часам нават нічым не дапаўняючы.

І вось што прыкметна. Пасьля 1563 году ў Эўропе таксама друкаваліся «лятучыя лісткі», прысьвечаныя падзеям у ВКЛ. Прыкладам, тую ж кампанію караля і вялікага князя Баторага асьвятляла амаль дваццаць пэрыёдыкаў. Аднак Полацак больш не трапляў у цэнтар увагі такой колькасьці эўрапейскіх выданьняў, як да яго зьнішчэньня, і ўжо больш ніколі яны не называлі яго «вялікім» ды «высакародным». Полацак больш ня ўзьняўся.

Адно маскоўскія паслы пра ўчыненае на Дзьвіне гаварылі «правільна», выдаючы чорнае за белае і цьвердзячы паўсюль: «И государь наш как есть государь христианский, взяв вотчину свою мечом, над народом милость показал, побити не велел и никоторого нападения на них людем своим учинити не дал».

# ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК

Праця̆г са старонкі 6.

Акрылены афіцыйным прызнаньнем свайго таленту, Фэлікс напісаў яшчэ з тузін падобных вершаў і адчуў сябе запраўскім песьняром пралетарыяту.

Усё ў яго ішло добра, і раптам гэты недарэчны арышт. Пэўна, хтось на яго настукаў, данёс за якое неасьцярожна, па п'янцы сказанае слова. У турме сьпярша допытвалі толькі пра вершы ды размовы ў асяродзьдзі паэтаў, а пасьля, мабыць, сьцяміўшы, што з таго будзе невялікі набытак, зьвязалі ягоную справу зь дзядзькам Аўтухом — прызнавайся, што польскі шпіён! Здаецца, таго ж дамагаліся і ад Аўтуха. І дамагліся. Па сваёй сялянскай дурноце ці, можа, не стрываўшы зьдзекаў на допытах, Аўтух падпісаў паказаньні, нібыта Фэлікс Казёл завэрбаваў яго ў агенты дыфэнзывы, каб той хадзіў праз мяжу. Трэба было яму вэрбаваць гэтага маласьвядомага аднавяскоўца? І навошта яму патрэбная была тая мяжа? І навошта патрэбна было фальсыфікаваць усё тое органам?

Штурханіна і ляскат колаў знадворку раптам спыніліся, адно ледзь чутна гудзеў матор. Панылы голас чэкіста абвясьціў:

— Ну што? Селі?

— Селі на дзіфер, — сказаў Шастак.

Фэлікс Гром далікатна пастукаў у дзьверы.

— Можа, і я памагу? Усё ж учатырох...

Адтуль, знадворку, ніхто не адказаў, але дзьверы, бразнуўшы, расчыніліся.

— Ану давай усе! Усе вылазь, маць вашу за нагу. І піхаць! Дружна, усе разам! — закамандаваў памочнік камэнданта з напускной, аднак, злосьцю.

Менавіта такая яго злосьць не палохала і не абражала. І Фэлікс падумаў, што, можа, гэты чэкіст і не такі ўжо благі чалавек. За два месяцы турмы, допытаў і катаваньняў ён натрываўся рознага і ўжо думаў, што сярод іх няма ніводнага людзкага чалавека, адныя зьвяры. А так хацелася хоць пры канцы сустрэць чалавека з дабрынёй у душы, які б паставіўся да небаракі калі не з разуменьнем, дык хоць з маленькаю да яго спагадай. Усё ж ён быў чалавек. Хоць і паэт. І вораг, прысуджаны да вышэйшай меры пакараньня.

Фэлікс Гром скочыў у цемру, адразу ледзьве не да каленяў трапіўшы ў каламутную багну дарогі. Аднак астатнія двое за ім не пасьпяшаліся, і памкамэнданта Косьцікаў зноў перайшоў на свой звыклы, зьедлівы крык:

— Ну вы! Доўга чакаць, маць вашу растак!

— А скульля табе! — пачулася з буды, — гэта спакойна азваўся грабежнік Зайкоўскі. — Я прыгавораны, мне не паложана штурхаць машыну.

— Як гэта — не паложана? — апешыў Косьцікаў.

— А так! Крымінальны кодэкс РСФСР, стацьця сто дваццаць сем прым. Чытаў?

Азадачаны Косьцікаў на хвіліну змоўчаў, шырока расставіўшы ля буды ногі, каб ня ўлезьці ў самае глыбокае месца. Цяжка сапучы ад перастомы, маўчалі іншыя. Фэлікс Гром ямчэй прыладжваўся ў лужыне, каб спрытней было папіхаць з твані. Нарэшце Сурвіла сказаў:

— Ды залівае ён! Ніякай пра гэта стацьці няма...

— Хай і няма. Усё роўна ня выйду. Хоць задавіцеся! Прысудзілі расстраляць, дык будзьце любезныя даставіць у цэласьці і сахраннасьці да месца казьні. Панятна?

— Зараз я табе пакажу месца казьні! — ускіпеў Косьцікаў і дастаў з кабуры пісталет. — Будзеш у мяне ў гразі валяцца, як дохлы пёс, бандыцкая твая морда! — страшна пагражаў ён. Аднак да дзьвярэй ня лез — усё баяўся трапіць у глыбокае месца багны.

— А што табе начальства скажа? — чулася з машыны. — Вёз — не давёз...

Падобна, становішча ўскладнялася. Аддзелены шырокаю лужынай, Зайкоўскі пакуль заставаўся недасяжны.

— Ну, падла, ты ў мяне дачакаесься! Я на цябе абоймы не пашкадую. Пасьледавацельна!

— Давай, дуй! Пасьледавацельна...

Апошнія словы Зайкоўскага Косьцікаў пакінуў, аднак, без увагі — яго турбавала іншае. Ён моўчкі агледзеў у цемры змакрэлыя постаці асуджаных, нібы палічыў іх.

— А там буржуй гэты, — падказаў Шастак.

— Белагвардзеец, — удакладніў Косьцікаў. — Ану вылазь, гражданін Валяр'янаў! Ваша сранае благародзьдзя!

З буды паказалася лысая, бяз шапкі галава Валяр'янава, які сьпярша сеў на парог, пашукаў, на што абаперціся нагамі, нерашуча перабраў побач рукамі.

— Сігай, ня трусь! — падбадзёрыў яго Сурвіла.

Белагвардзеец, аднак, не сігануў, а, ухапіўшыся за плячо Аўтуха, грузна апусьціўся ў лужыну.

— Ну — узялі! Раз, два — узялі! — трохі адышоўшыся ўбок, закамандаваў Косьцікаў, усё размахваючы пісталетам.

Яны зноў узяліся піхаць. Шафёр газаваў рыўкамі, спрабуючы скрануць машыну з глыбока выкапанай коламі ямы. А ў зачыненай будзе чуўся прыглушаны, бы здаля, голас пакінутага ў адзіноце Зайкоўскага.

— Піхайце, піхайце! Дружней піхайце, жалкія рабы сацыялізму! Гнюсныя прыслужнікі трацкістаў! Піхайце на сваю пагібель! Шчыруйце за крывавы ЧК! Давайце, дружней! Мацней, крэпчэ і вышэ!..

— Ты глядзі! — цяжка соп ля буды Шастак. — Тут кішкі рвеш, а ён там абражае. Во, сачок праклятьі!..

— Давайце дужэй, пралетарскае адродзьдзе! То вам зачцецца бальшавіцкаю куляй!..

— Замоўкні! Я загадваю замоўкнуць! Буду страляць, — гразіўся Косьцікаў, тупаючы на ўзбочыне ля машыны.

Аднак асуджаны Зайкоўскі не сунімаўся і яшчэ крычаў штось — нядобрае і абразьлівае. Тады Сурвіла першы адарваўся ад вугла буды і параіў:

— Ды страляні ты яму ў ягоную глотку! Дакуль слухаць будзем?

— Лічу да трох і выпускаю ўсю абойму!

— Выпускай! Калі казённай машыны ня жалка... — неслася з буды.

Аднак не пасьпеў Косьцікаў пачаць свой адлік, як матор дужа стрэльнуў выхлапам і заглух. З-пад машыны напасьледак пыхнула сінім дымком, зрабілася зусім ціха.

— Што такое? — зьнерухомеў Косьцікаў.

— Усё. Бэнзын скончыўся, таварыш памкамэнданта, — глуха азваўся з кабіны шафёр. Косьцікаў вылаяўся.

Усе стаялі моўчкі, быццам расчараваныя або ашуканыя чымсьці. Сапраўды, гэтак стараліся, столькі патрацілі высілкаў, і ўсё марна. І зноў прыйдзецца пачынаць спачатку.

— Так! — пасьля нядоўгай маўклівай паўзы вызначыў Косьцікаў. — Шафёр, давай дуй у гараж. Хай прысылаюць бэнзыну.

— Хай Чысьцякову скажа, — параіў Сурвіла. — Чысьцякоў у курсе. Пад'едзе.

— І далажы дзяжурнаму, — удакладніў памкамэнданта. — Давай, дуй! Хутка!

Малады баец-шафёр зморана патрухаў па дарозе ў горад. Асуджаныя паволі выбраліся з гразі на сушэйшую ўзбочыну. Усе чакалі, што далей закамандуе іхны начальнік. Той аднаруч расшпіліў шынэлак, з другой рукі не выпускаючы пісталета.

— Так! Думаеце цяпер пашабашыць? Чорта з два! Ану бярыцеся! Зноў штурхаць будзем.

Ня надта ахвотна ўсе зноў паўлязалі ў багну і зноў уперліся рукамі ў запэцканы гразёй зад машыны — Сурвіла і Шастак — па вуглах, Аўтух і Фэлікс побач. Валяр'янаву дасталося самае гіблае месца — пасярэдзіне. Машына грунтоўна асталявалася на самай глыбіні лужыны, і, здавалася, вось-вось паплыве па ёй. Ды не плыла, нават ня краталася зь месца. Косьцікаў, размахваючы пісталетам, зноў пачаў дырыжыраваць з узбочыны, а яны, месячы нагамі багну, піхалі і піхалі.

Аднак зноў усё было марна. Машына асела зусім нізка, і, падобна, ніякая сіла не магла яе вывалачы з дарожнае прорвы. Праз нейкі час уладны голас памкамэнданта заглух, і яны расслабілі рукі.

— Так ня пойдзе! — з горыччу загаманіў Шастак. — Калі піхаць, дык трэба ўсім піхаць. А то як у брыгадзе — адзін укалвае, а другі адлыньвае.

— Хто гэта адлыньвае? — насьцярожыўся Сурвіла.

Працяг на старонцы 12.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ДЗЬВЕ ЗОРКІ

*Да сьмерці Аляксандра Кішчанкі і дзясятых угодкаў сьмерці Эндзі Ўорхала*

Яны нарадзіліся ў розных краінах і ў розных абставінах. Андрэй Варгола нарадзіўся ў 1928 годзе ў амэрыканскім Піцбургу. Ягоныя бацькі, праўда, родам з русінскае горнае вёскі Мікова, што ў Славакіі, на сумежжы Ўкраіны і Польшчы. Бацька дванаццаць гадоў працаваў у Штатах перад тым, як выклікаць жонку з роднае вёскі ў вольны сьвет.

Аляксандар Кішчанка нарадзіўся ў вёсцы Белы Калодзеж, што ў Варонескай вобласьці, на сумежжы з Украінай, у 1933 годзе. Ягоныя бацькі нікуды не зьяжджалі. Яны былі савецкімі калгасьнікамі.

Андрэй Варгола зь цягам часу перабраўся ў багемны квартал Нью-Ёрку, Соха. Тут ён стаў Эндзі Ўорхалам. А Кішчанка перабраўся ў Менск. Праўда, ён застаўся Кішчанкам.

Ўорхал быў паўальбіносам, пакутаваў на хваробу Паркінсана. Праз гарманальныя праблемы яшчэ падлеткам ён згубіў валасы. Затое пазьней насіў шыкоўны парык — славутую плацінавую шавялюру. Кішчанка таксама насіў сваю прыкметную шавялюру, праўда, натуральную. З узростам і ў яго валасы набылі плацінавы адліў.

Эндзі Ўорхала называюць першасьвятаром поп-арту. Паспаліты амэрыканец гадоў дзесяць таму мог ня ведаць Рэмбранта, але Ўорхала ён ведаў абавязкова. У сукнях у кветачкі, намаляваных Эндзі, ходзяць мільёны



жанчын. Зробленыя ім партрэты Мэрылін Манро, Элвіса Прэсьлі, Леніна і Мао Цзэ Дуна можна сёньня пабачыць у рэстарацыях і кавярнях ад Мэхіка да Вільні. Ягоныя інсталяцыі з кансароўкамі таматнага супу «Кэмпбэл'з» сталі абразом для пастіндустрыйнага сьвету. Ён здымаў фільмы, рабіў сцэнічны імідж і вокладкі альбомаў для «Ролінг Стоўнз», быў мэнэджэрам рок-гурта «Вэлвэт Андэграўнд». Ягоныя падзелкі ў выглядзе амэрыканскіх зорачак, сьцягоў, арлоў, джынсаў, «Кока-Колы», можна было пабачыць у вітрынах крамаў. Як напісалі пазьней, ён зрабіў амэрыканскую мару трывіяльнай.

Навязьлівасьць славы Ўорхала стала настолькі адыёзнай, што ён заслужыў тэрарыстычнага замаху. Паталягічная фэміністка Саланас, якая засадзіла ў яго колькі куляў, матывавала гэта тым, што Ўорхал эксплюатуе сьвет. Ягоны ўласны твар ператварыўся ў гэткі ж самы сымбаль, што і партрэты супэрзорак, якія ён рабіў за шалёныя грошы для музэяў і прыватных калекцыяў. Вяршынёю ягонага снабізму стаў лэнч у парыскай рэстарацыі «Рыц» разам з Сальвадорам Далі і Джонам Ленанам...

З кім мог папалуднаваць Кішчанка? Пэўна ж з Савіцкім і, бадай, з Вуячычам. Можа дзе-небудзь у Кіеве, на днях культуры БССР. На яго ніхто не рабіў ніякіх замахаў. Хоць недабразычліўцаў у яго хапала. Ягоная слава ў БССР таксама пераходзіла ўсялякія межы савецкага ўяўленьня. Росьпісы санаторыя «Беларусь» у Крыме, гіганцкія мазаікі на Юбілейнай плошчы і на гатэлі «Беларусь» у Менску, велізарныя, у 10 паверхаў, пано на дамах у мікрараёне «Ўсход-1». Сотні жывапісных працаў адметнага, пазнавальнага «аплікатыўнага» стылю, вывешаных у розных музэях СССР і растыражаваных у маскоўскіх і менскіх альбомах.

Зусім асобнае гутаркі заслугоўваюць габэлены Кішчанкі. Пры ім габэлен стаў часткаю ідэалягічнага будаўніцтва ў БССР. Вядома, тое, што габэлены рабіў сам мастак, трэба ўспрымаць умоўна. Яны ткаліся дзясяткамі майстрых на габэленавай фабрыцы. Але які размах! Габэлены для ЦК КПБ, для тэатраў Менска і Віцебска, для пасольстваў, для гатэльных холаў, аграмадны габэлен-запавеса для тэатра Музычнае камэдыі... Але асобная старонка ў творчасьці Кішчанкі адкрылася зь незалежнасьцю Беларусі. Ягоны габэлен «Чарнобыль» пабачыў Нью-Ёрк. Шкада, Уорхал не дажыў. Яны маглі б сустрэцца. Чужаніца-бунтар, які сваім эпатажам скарыў бамонд авангарду, і савецкі прагматык-канфарміст, які ўсё жыцьцё абслугоўваў дзяржаву. Гэты габэлен і дасёньня вісіць у ААН.

Самай вялікай кропкаю (15 на 19 мэтраў) у творчасьці Кішчанкі стаў габэлен «Дваццатае стагодзьдзе». У гіганцкай мандорле, як у павелічальным шкле, сабраныя дзеячы БНР і БССР, беларускія і ня толькі, дзеячы культуры, навукі, выбітныя асобы палітыкі і царквы. Па-над імі лунае Хрыстос Пантакратар, справа ад якога прымасьціўся Лукашэнка ў німбе... Нашто спатрэбіўся гэты вобраз? Рэч у тым, што працу над габэленам мастак пачаў яшчэ ў 1991 годзе. Гэтак зьявіліся на ім браты Луцкевічы, Ластоўскі, Ігнатоўскі... Які лёс мог напаткаць гэты твор пры новым рэжыме?.. Гэтак і зьявіўся Лукашэнка. У самым версе, дзе яго на вышыні 20 мэтраў разгледзіш хіба што ў бінокаль.

Натуральна, Кішчанка разьлічваў, як і ўсё сваё жыцьцё, на салідны ганарар. Бо месца для габэлена ўжо было перадвызначана ў будучым Палацы Рэспублікі. І нават Лукашэнка паглядзеў, «адобрыў». Але ў дзяржавы не знайшлося грошай на выкуп гэтага твора...

Як і Ўорхал, які памёр зьнянацку ад няўдалае апэрацыі на жоўцевым пухіры, Кішчанка таксама памёр заўчасна, ад раку.

Прыхільнікі Ўорхала засталіся расчараваныя спадчынай, якую пакінуў іхны кумір: цынічныя скандальныя «Дзёньнікі Ўорхала» і куча хлуду, якім быў завалены ягоны дом (Уорхал штодня рабіў шматлікія і часам абсурдныя пакупкі). Паказны нонканфармізм апынуўся геніяльным камэрцыйным трукам. Яшчэ праз дзесяцігодзьдзе ягоную біяграфію, бадай, можна будзе хутчэй прачытаць у даведніках шоў-бізнэсу.

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Кішчанка, які ў свой час быў адным з самых заможных людзей краіны, памёр, ледзь зводзячы канцы з канцамі. Сёньня дзяржаўны бюджэт не прадугледжвае расходаў на дзяржаўных мастакоў. Шчыры канфармізм стаўся пасткаю.

У вёсачцы Мікова, на радзіме бацькоў Уорхала, дзе яго абагаўляюць, створаны каласальны музэй яго імя, у былым Палацы культуры, перад якім стаяць двухмэтровыя бэтонныя кансароўкі супу «Кэмпбэл'з». У Нью-Ёрку ж пра «Папу попу» сёньня згадваюць толькі знаўцы.

У райцэнтры Багучар, на радзіме Кішчанкі, у музэі баявое і працоўнае славы, засталася распісаная ім заля і габэлен «Мой родны край»...

А ў Менску «Габэлен стагодзьдзя» ўжо два гады ляжыць у спусьцелай майстэрні. Унікальны твор, найбуйнейшы ў сьвеце ў сваім жанры, разам з выяваю Лукашэнкі, пакрысе жарэ моль. Што чакае гэты твор, варты кнігі Гінэса, заўтра, альбо праз якіх пятнаццаць гадоў?..

**Сяргей Харэўскі**



# ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК

*Працяг са старонкі 11.*

— А то ня бачыце? Во буржуй гэты! Толькі за борт трымаецца.

Валяр'янаў ніякавата сьцепануў плячыма.

— Я не трымаюся...

— Ну як жа! Хіба ня бачыў! Яшчэ адпіраецца, — не сьціхаў Шастак. — Дзеля прыліку толькі...

— Хто яшчэ бачыў? — насупіўся Косьцікаў. Астатнія, аднак, маўчалі, і памкамэнданта пачаў пэрсанальны допыт:

— Аднаасобнік, бачыў?

— Не, не. Нічога ня бачыў.

— А ты, паэт?

Фэлікс Гром ніякавата пераступіў у лужыне, каламуцячы і без таго скаламучаную твань.

— Ну, можа, і ня дужа... Усё ж чалавек у гадах, — няпэўна адказаў ён.

— Ага, у гадах! Значыць, ня можа? А шкодзіць савецкай уладзе можа? Так, я сам прасачу за кожным. Сачка прыстралю без разгавораў. І кіну пад колы. Тады вылезем.

Фэлікс Гром сам піхаў, лічы, адною рукой, другой ня мог высока ўзяцца — балела ў грудзях. І цяпер ён спалохаўся, каб таго ня згледзеў пільны Шастак ці нават сам памкамэнданта Косьцікаў. Што яму перашкодзіць тут выканаць сваю пагрозу: прыстрэліць і кіне ў гэтую багну. Ад аднае думкі пра тое Фэлікс здрыгануўся і страхавіта зірнуў на цьмяную постаць у шынялі на ўзбочыне.

Яны зноў піхнулі. На гэты раз па камандзе і з усяе сілы, у Фэлікса Грома ад болю аж пацямнела ўваччу. Побач, адчуваў ён, нямала высільваецца і белагвардзеец-буржуй Валяр'янаў, — мабыць, таксама пабойваецца чэкіста. Хоць, калі падумаць, чаго ўжо было ім баяцца, куды імкнуцца? Наперад, да свае сьмерці? А можа, справа ў тым, што кожны быў пастаўлены перад просьценькім выбарам, дзе лепей легчы — у пясчаную сухую зямельку ці ў гэтую багну, ад якой у яшчэ жывых да каленяў задубелі ногі. Так можна і прастыць, з іроніяй вісельніка падумаў паэт Фэлікс Гром. Свой катафалк яны ж самі і штурхалі да месца паховін. Гэта было штосьці новае ў спрадвечным абрадзе пахаваньняў. Ці адмысловых мэтадаў катаваньня? Во пра што варта было б напісаць верш, баляду ці сагу. Але не распаўсюджаным ямбам, а каб гекзамэтрам, як Гамэр. Мабыць, Гамэр быў бы самым прыдатным паэтам для гэтай праклятай эпохі...

— Раз, два — узялі!... Ану — рушылі! Яшчэ раз! Яшчэ! — дзікім голасам крычаў побач Косьцікаў. — Не адлыньваць! Дужэй! Яшчэ дужэй!...

Разы два ён пальнуў угару зь пісталета, прымусіўшы здрыгануцца іх, спатнелых і ўжо дашчэнту зьнясіленых. «Давай! Давай!» І во, дзіва — машына трохі скранулася. Яны, узрадаваныя, паддалі яшчэ болей, напяліся рукамі і нагамі, і яна трохі пасунулася, напаўзла ў твані. Тыя, што былі пасярэдзіне — Гром і Валяр'янаў, улезьлі ў самую глыб, але не адступіліся, не прыбралі ад буды рук. І ўрэшце ўсе разам выпхнулі перапэцканую гразёй машыну з самага глыбокага месца. Хоць гразка было скрозь па дарозе, але ўшчэнт раскаламучаная лужына засталася ззаду, і яны зьнямогла спыніліся.

— Ну во, такую вашу маць! — амаль ласкава вылаяўся памкамэнданта. — Што значыць, умелае кіраўніцтва! А то — аслабелі, сілы мала... Прымусіць трэба! Дзесяць мінут перакур! — аб'явіў ён і адышоўся на сушэйшае каля канавы месца.

За ім нерашуча павылязалі з гразі асуджаныя, пакорліва стоўпіліся побач. Чэкіст засунуў пісталет за борт шыняля і вынуў з кішэні пачак «Беламору». Найперш, як сябру, працягнуў пачак Сурвілу.

— Частуйся...

Той гразкімі пальцамі ашчадна дастаў з пачка адну папяросу, зважліва прыкурыў ад падстаўленай у прыгоршчах запалкі. Над дарогай паплыў араматны тытунёвы дымок.

— За ўдарную работу па ліквідацыі ЧП пры выкананьні заданьня аб'яўляю благадарнасьць, — з фальшывай урачыстасьцю аб'явіў Косьцікаў.

Асуджаныя нібы страпянуліся на дарозе ад тых даўно сьцёртых з памяці словаў, адчуўшы ў іх пранізьлівы водгук назаўжды адрэзанага ад іх жыцьця. Тут і цяпер яны зразумелі тое як жарт, але й жарт быў адзнакай жыцьця, недасяжнасьцю якога нібы дражніў іх гэты незразумелы чэкіст, чым рабіў ім яшчэ больш балюча.

Адзін толькі Шастак, здаецца, гатовы быў усур'ёз прыняць сказанае.

— Дзякуй, таварыш... Грамадзянін начальнік. Каб гэта залічылася...

— Залічыцца, залічыцца, — няпэўна паабяцаў памкамэнданта.

— На тым сьвеце, — ухмыльнуўся Сурвіла.

— Чаму на тым? — не пагадзіўся ягоны калега. — І на гэтым. Я вам прадастаўлю самую лепшую ямку. Сухую, з жоўтым пясочкам... Ня горш, чым ударнікам сацыялістычнага спаборніцтва.

Было не зразумець, казаў ён тое сур'ёзна ці хітравата зьдзекаваўся зь іх, у ранішнім прыцемку быў кепска відаць выраз ягонага заўжды жвавага маладога твару. Але голас здаўся зусім памяркоўным і добразычлівым, і тое міжволі заспакойвала.

— Ну але ж во я — невінаваты, — ступіў наперад Шастак. — Ну, праўда. Во той сьледчы таварыш Кутасаў ведае. Я ня шкоднік.

Косьцікаў смачна зацягнуўся папяросай і разважна выпусьціў даўгі струмень дыму.

— Ну ведама, невінаваты. Калі б ты быў вінаваты, табе б на сьледзтве кішкі выматалі. Косьці б пераламалі. Жонку б на тваіх вачах таго... Калі б быў вінаваты. А так — спакойна застрэлім на сасновым пагорачку. І ўсё. Праўда, буржуй? — раптам зьвярнуўся ён да Валяр'янава, які стаяў трошкі збоч ад астатніх.

Падобна, ён хацеў зачапіць Валяр'янава, але той не адказаў на ягонае пытаньне. Ды ён яго й не пачуў, гэтага маладога, самаўпэўненага чэкіста. Ён ужо нямала пабачыў іх на сваім вяку, пачынаючы зь дзевятнаццатага году, калі яго расстрэльвалі ў Алушце. Ён думаў пасьля, каб тады расстралялі, дык не было б тых пакут і прыніжэньняў, якія ён перажыў за ўсе наступныя свае гады. Але ў Алушце не расстралялі. Толькі давялі да дыстрафіі і выпусьцілі паміраць самахоць. І гэта пратрымаўшы тры тыдні сярод паўсотні былых афіцэраў Добраахвотніцкай арміі ў сырым вінным склепе бязь ежы і вады, не выпускаючы па натуральнай патрэбе. Гэтае апошняе дапякала Валяр'янава болей за голад і смагу, ён доўга ня мог прызвычаіцца хадзіць па-большаму і малому на вачах у натоўпу розных чынам і векам людзей і ўжо тады зразумеў нялюдзкую сутнасьць чэкістаў. Яны — нелюдзі, так і трэба было іх разумець, калі толькі нармальным розумам магчыма было што зразумець. Родны брат Валяр'янава, мілы паручнік Аркадзь Аркадзевіч, так і не зразумеў, мабыць, з кім мае справу — гарачыўся, пратэставаў, спрачаўся. І звар'яцеў. Прыстрэлілі, бы сабаку, і кінулі ў прыдарожны быльнёг. Ён жа вось выжыў галоўным чынам таму, што не пратэставаў, ніколі ні з кім не спрачаўся, паводзіў сябе ніжэй за траву, цішэй за ваду. Зрэшты, і чаго дачакаўся? Таго ж, што і брат. Толькі гадоў на пятнаццаць пазьней. Ці варта было ашчаджацца?

Тым часам пачало днець. Абапал дарогі выплыў са змроку восеньскі палявы прасьцяг з пагорачкам зводдаль і прыдарожным хмызьняком паблізу. Зьверху то імжыў, то пераставаў дробны дождж, з поля дзьмуў вільготны заходні вецер. На пагорак бегла гразкая разьежджаная дарога з налітымі дажджом каляінамі. Гараджане тут езьдзілі нячаста, а каляіны былі ад машын наркамату ўнутраных справаў, які толькі й карыстаўся той дарогай. Асабліва ноччу. А то, бывала, і ўдзень, пад час маскоўскіх праверак, калі ў горадзе тэрмінова разгружаліся турмы.

Тое, што Валяр'янаў ніяк не адрэагаваў на заўвагу, не спадабалася Косьцікаву.

— Ты, буржуй! Да цябе абрашчаюцца!

— Я чую, — ціха, аднымі вуснамі адказаў Валяр'янаў.

— Дзяч маёй дабрыні. Хацеў прыстрэліць.

— Дзякуй...

— Во! А то не напомніш — не падзякуюць. Буржуйская нявыхаванасьць...

— Да сваіх яны дык дужа добра выхаваныя, — падхапіў Шастак. — Усё: благадару, благадару...

— Да сваіх. Але не да пралетарыяту, — заўважыў Сурвіла. — Пралетарыі — іхныя ворагі.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА ХХ СТАГОДЗЬДЗЯ



# МІХАЛ ФІЛІПОВІЧ. БІТВА НА НЯМІЗЕ

Імпрэсіянізм у чыстым выглядзе абмінуў Беларусь, якая на той час заставалася ў палоне расейскіх уплываў. Праявы імпрэсіянізму ў мастацтве Расеі (як і Польшчы) былі мінімальныя. Гэта тым больш дзіўна, што нават у недасяжнай Японіі імпрэсіянізм атрымаў свой спэцыфічны працяг, які назвалі «эпохай Мэйдзі». Як запозьнены акорд, у часе расейскага «срэбнага веку» прагучаў жывапіс Каровіна, Малявіна, Архіпава. Неўзабаве іх творчыя й чалавечыя лёсы разышліся радыкальна. Але тыя колькі зярнятаў не прапалі...

... Канстанцін Каровін пасьля 17-га году падаўся выкладаць у Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях у Маскве (ВХУТЕМАС). Гэты імпэтны мастак з шырокай і няўрымсьлівай натураю радыкальна ўплываў на густы сваіх вучняў, пераважна простых хлопцаў з правінцыі. Імпрэсіяністычнасьць ягонае ўласнае манеры — свабодны шырокі жывапіс, адкрытыя фарбы, дэкаратыўнасьць, эскізнасьць выкананьня, хутка засвойваліся навучэнцамі. Адным з гэткіх вучняў стаў і Міхал Філіповіч...

... Малады Філіповіч прыехаў у Расею ў 1920 годзе, на вучобу. За год зь невялікім, гэты вучань Каровіна прайшоў незвычайную трансфармацыю густаў. Незвычайную ў сэнсе радыкалізму й хуткасьці. Прыехаўшы ў Маскву прыхільнікам акадэмічнага рэалізму, тутака ён становіцца радыкальным імпрэсіяністам. Як мага больш хуткая перадача сьвежых уражаньняў, мажорны, нічым ня скуты настрой, дзвонкія чыстыя фарбы... На гэтым і сышоўся вучань з настаўнікам. Неўзабаве Каровін зьехаў на Поўдзень Францыі. Філіповіч — у Беларусь...

... Працаздольнасьць і бясконцыя сумневы Філіповіча ўражваюць. Як толькі ён прыехаў на Радзіму, стаў супрэматыстам. Калі ён пазнаёміўся з тэорыямі Малевіча, невядома, але гэта было няцяжка для маладога, прагнага да ідэяў мастака. У Віцебску менавіта тым часам выйшлі асноўныя кнігі Малевіча: «Аб новых сюжэтах у мастацтве», «Бог ня скінуты», «Мастацтва, царква, фабрыка», і, вядома, «Супрэматызм»... У верасьні 1921 году сябра Філіповіча, Міхал Станюта, які на пэўны час узначаліў аддзел мастацтва Дзяржпалітасьветы, ладзіць у Менску выставу. Гэтая менская, першая савецкая, выстава мастацтва адзначыла апошнюю прыступку, якая аддзяліла ва Ўсходняй Беларусі дасавецкую традыцыю ад найноўшага мастацтва. На ёй былі прадстаўленыя і сымбалісты, і акадэмісты. Філіповіч выставіў «Супрэматызм», «Максымальнае выяўленьне колеру», «Канструкцыю плоскасьцяў»...

... Але яму не хапала сюжэту, зь якім непазьбежна зьвязаны фантазійны рамантызм. Філіповіч у гэтыя гады быў прасякнуты ідэяй стварэньня нацыянальнага беларускага стылю. Супрэматызм, спараджэньне лягічнага аналізу, на тое не надаваўся. Яшчэ да сваёй вучобы ў Маскве малады мастак імкнуўся да вывучэньня народнага беларускага мастацтва, у якім сьведама шукаў крыніцаў для ўласнага творчага мэтаду. Ягоная спадчына ўлучае 10 альбомаў замалёвак тканінаў, разьбы, народных строяў, зробленых за доўгія гады вандровак па Беларусі... Аднак, прайшоўшы пакручастую мастакоўскую эвалюцыю, Філіповіч вельмі далёкі ад фармальнага паўтору прыёмаў народнага мастацтва. Ягоны мэтад — вылучэньне традыцыйных эстэтычных архетыпаў і іх свабоднае сынтэзаваньне дзеля стварэньня ўласных арыгінальных кампазыцыяў...

... Менск 1921 году ўяўляў сабою гуту-плавільню, зь якое мусіла паўстаць ніколі ня бачанае, новае беларускае мастацтва. У адрозьненьне ад Віцебска, тут паўставала не пралетарскае мастацтва будучыні, якое мусіла стварыць новага чалавека, а сучаснае мастацтва, якое мусіла стварыць беларуса. У майстэрнях «Выяўленчае мастацтва», створаных Галоўпалітасьветаю, была наладжаная вытворчасьць плякатаў, кніжак, партрэтаў і нават цацак. Галоўным чынам, тут тварыла моладзь. У адрозьненьне ад Віцебска, які яшчэ быў у РСФСР, гэта была беларуская моладзь: Гуткоўскі, Станюта, Дваракоўскі, Тычына, Кудрэвіч і Філіповіч. Праблемаў з нацыянальным самавызначэньнем у іх ужо не было, роўна ж як і з вызначэньнем сваіх творчых пазыцыяў — стваралі Беларусь. У гэтым жа годзе Філіповіч адкрывае сваю майстэрню пад даўгаватаю назвай «Свабодная акадэмія М.М.Філіповіча». Гэтая «акадэмія» стала цэнтрам нацыянальнага беларускага мастацтва, клюбам, дзе мастакамі па-свойму вырашаўся лёс Бацькаўшчыны...

... Недзе ў гэтыя гады Філіповіч піша невялікую (77,5x92,5) працу «Казка», у якой ягоны сынтэзаваны мэтад знайшоў яскравае ўвасабленьне. Сярод фантастычнага краявіду йдзе двубой двух вершнікаў-хімэраў. Хто зь іх пазытыўны пэрсанаж? Ніхто. Адзін — азіят у рагастай чапцы, у паласатым каптане, увесь жоўта-зялёны. Другі — сіне-чырвоны, закуты ў нейкае жалезьзе, бадай, паўэўрапеец у біблейскай мітры. Б'юцца люта, страшна, топчуць чырвоны дыск, што ніяк з-пад іх ня ўздымецца. Угледзься праз твань, празь цемру, хто б'ецца за тваю зямлю, хто не дае ўстаць сонцу... Пачвары з Усходу і з Захаду. А ты толькі будзеш вызіраць са свайго балота? Няхітрая прыпавесьць, мудрагеліста зашыфраваная пад «казку».

У каляровай гаме, гэткай наўмысна шалёнай, у пярэстым карагодзе пісягоў ёсьць свая непахісная лёгіка. Дастаткова прыгадаць росьпісы на вясковых куфрах, альбо лепей, на дыванах. Чорнае, альбо брунатнае тло, па якім каляровае напружаньне нарастае ад зялёнага хрому і блакітных плямінаў па краёх да чырвона-зялёнага ўдару пасярэдзіне — шыпшына, мак ці ружа... Узыход сонца над зялёнай зямлёю. Як у Дубоўкі: «О, Беларусь, мая шыпшына...»

... Гэткае канкрэтна-мастацкае мысьленьне Філіповіча катэгорыямі народнае эстэтыкі прачыніла беларускаму мастацтву шлях да яшчэ неасэнсаваных крыніцаў нацыянальнае мэнтальнасьці, да першасных уяўленьняў пра хараство. Я маю на ўвазе не сакральную сэмантыку арнамэнтаў і народнага строю, якія зь цяжкасьцю паддаюцца тлумачэньням нават саміх штукароў, якія іх выробляюць. Я маю на ўвазе пазьнейшы, індывідуалістычны пляст народнага мастацтва, які адлюстроўвае не касмаганічныя ўяўленьні продкаў, а падсьведамы архетып прыгожага, памкненьне да спакусы. У хрысьціянскай сэмантыцы чырвоны і зялёны колер амбівалентныя: зялёны — сымбаль ня толькі жыцьця адвечнага, але й пярэваратня-Антыхрыста, а чырвоны можа быць колерам ахвяры выкупленьня, але і полымя пекла. Зялёнае з чырвоным — трывожны знак райскага плода...

... У 1921-22 гадох Філіповіч піша таксама некалькі карцінаў на шчыра этнаграфічныя матывы: «На Купальле», «Вясна», «Скокі праз вогнішча», «Карагод», «Народнае гуляньне». Усю гэтую жывапісную нізку лучыць адметны, філіповіцкі стыль, нечаканае спалучэньне супрэматычных і імпрэсіяністычных прыёмаў, які збліжае гэтыя пошукі Філіповіча з пошукамі Малевіча, толькі ў адваротным накірунку. Сярод «этнаграфічных» палотнаў самым красамоўным стала «На Купальле». У зіхоткім, стракатым жывапісе нібыта матэрыялізаваўся дзікі, нястрыманы, спакусьлівы вір народнае маладое стыхіі. Кантраст сьветлых, агністых плямаў на пярэднім пляне, на якім выяўленыя людзкія постаці ў разьятраным рытме скокаў, і суворага, амаль аморфнага дальняга пляну зь цёмнай стужкаю ракі, робіць гэты сюжэт драматычным. Невыпадкова дасьледчыца Валянціна Вайцяхоўская заўважыла, што стыхія народнага сьвята асацыюецца ў Філіповіча «... з рэвалюцыяй, якая ўспрымалася як страшнае, крывавае, п'янкое сьвята». Сьвята — рэвалюцыя?..

Менавіта ў гэты самы час, у 1922 годзе, Філіповіч ілюструе «Босых на вогнішчы» Міхася Чарота... Хаатычны, калматы натоўп паўстанцаў, спавіты ці то дымам, ці то пылам, топча сваіх ворагаў. Гіпэрбалізаваныя эмоцыі, якія мусілі б давесьці публіку да афэкту, увабраныя ў схематычныя, прымітыўныя формы, трапна супалі з эмоцыямі Чарота. Рэвалюцыя — сьвята!..

... У 1919 годзе Янка Купала робіць першы поўны пераклад «Слова пра паход Ігаравы», тады яшчэ прозаю. Праз два гады, жывучы ў камянічцы на Трасцкім прадмесьці, насупраць менскага Замчышча, Купала стварае вершаваны варыянт «Слова...» У гэты час сюжэт братазабойчае сечы на Нямізе ў неймаверна далёкім 1067 годзе загучаў невераемна надзённа і тужліва, як прарочы праклён... «Слова пра паход Ігаравы» Купалы стала шэдэўрам нашае літаратуры. Сеча на Нямізе стала сымбалем нашага гістарычнага лёсу...

Напрыканцы 1922 году Філіповіч піша сваю «Бітву на Нямізе». Ці ёсьць тут пазытыўныя пэрсанажы? Няма. Вялікі натоўп людзей сячэцца між сабою люта. За што? Ужо не чужынцы, як у «Казцы», б'юцца, а свае... Таму ніхто не адкажа, за што яны гінулі і забівалі.

Карціна ўспрымаецца як фрагмэнт, выхаплены зь неабсяжнае панарамы, дзе мы маглі б пабачыць і неабсяжны далягляд і ўсіх дзейных пэрсанажаў. Мастак зацьміў і адрэзаў зьлева край натоўпу, а справа прыпусьціў золак — той жа калярыстычны прыём, дзе цэнтрам кампазыцыі становяцца бязьлітасныя ўдары чырвонага й зялёна-сіняга. Гэтай працаю Філіповіч, бадай неўсьвядомлена, падвёў рысу пад усімі сваімі папярэднімі мастакоўскімі пошукамі. Аналіз беларускага колеру і рознастылёвая форматворчасьць вынiклі ў блізкую да мадэрну кампазыцыю, дзе плоскасныя выявы пэрсанажаў, хутчэй дэкаратыўныя, суседзяць з амаль рэалістычным краявідам, над якім бягуць пасмы ватных аблокаў. Выява дрэва на першым пляне блізкая да падобнага ж матыву і ў «Казцы», але гэтым разам яна больш рэалістычная, больш мякка змадэляваная. Голае дрэва цёмным сваім абрысам утварае прасторавую глыбіню ўсёй кампазыцыі, трывала яе завяршаючы. Статычны матыў зімовага дрэва ў нішчымным краявідзе жорстка падкрэсьлівае зьмест твору — куламесу людзкіх постацяў.

«Бітва на Нямізе» была паказаная на 3-яй Усебеларускай выставе ў 1929 годзе. Але часы былі ўжо не для такога мастацтва. Бальшавіцкая пільная крытыка адразу «раскусіла» творчасьць Філіповіча. «Безідэйнасць» і «фармалізм» гэтага ягонага шэдэўра рэзалі вочы. На шчасьце сваё, Філіповіч ізноў у гэты час вучыўся ў Расеі, адкуль ён вярнуўся ў 1930 годзе зусім іншым мастаком... Бадай, і іншым чалавекам.

Сяргей Харэўскі



**МІХАЛ ФІЛІПОВІЧ** (1896, Менск – 1947, Менск) жывапісец, графік, пэдагог. Вучыўся ў Маскве, з 1920 да 1921, і з 1925 да 1930, у Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях.

***У папярэдніх нумарах прадстаўленыя творы:***

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына

"Наша Ніва"
незалежная газэта
НАША НІВА
заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ........ Павал Жук
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: edit@niva.minsk.by
http://rampage.ml.org/users/~nasa_niva

© НАША НІВА. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. Наклад 2665. 8 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 21:48, 14/12/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 7385. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010